● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

11 ліпеня 1996 г. чацвер, № 175 (22978)

# ЗВЯЗДА



## НА ХАРЧАВАННЕ ГРОШАЙ У БЕЛАРУСА НЕ ХАПАЕ

**Згодна вынікаў развіцця гандлю за першае паўгоддзе 1996 года, упершыню за апошнія пяць гадоў у Беларусі за азначаны перыяд была пераадолена тэндэнцыя падзення рознічнага тавараабароту ў параўнальных цэнах да адпаведнага перыяду мінулага года. Іншымі словамі, калі верыць інфармацыі Міністэрства гандлю, гэта з'ява сведчыць аб пэўнай стабілізацыі на спажывецкім рынку краіны.**

Так, рознічны тавараабарот за першае паўгоддзе бягучага года склаў 26.307 млрд. рублёў, або 103 працэнты да адпаведнага перыяду мінулага года ў параўнальных цэнах. Аднак разам з тым працягвае пагаршацца структура тавараабароту. У прыватнасці, у агульным яго аб'ёме ўдзельная вага харчовых тавараў складае, па апошніх звестках, 69,4 працэнта, прычым адзначаецца зніжэнне спажывання біялагічна каштоўных прадуктаў харчавання. Так, за паўгоддзе рэалізацыя сметанковага масла на душу насельніцтва скарацілася з 0,25 да 0,21 кг, цэльнамалочнай прадукцыі — з 5,53 да 4,39 кг, мяса і птушкі — з 0,89 ад 0,85 кг.

Такім чынам можна меркаваць, што насельніцтва ўсё большую перавагу аддае танным (і адпаведна — менш каларыйным) прадуктам. Адсюль — стабілізацыя і парадак у справаздачах? Бо не сакрэт, што большасць насельніцтва за апошні час стала есці не лепш і больш, а наадварот...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## АРЫШТАВАНЫ БЫЛЫ РАБОТНІК ДЫРЭКЦЫІ МАГАЗІНА «АЎТАМАБІЛІ» ВАЕНГАНДЛЮ МІНІСТЭРСТВА АБАРОНЫ РЭСПУБЛІКІ

**8 ліпеня органамі ваеннай контрразведкі Камітэта дзяржаўнай бяспекі рэспублікі арыштаваны былы работнік дырэкцыі магазіна «Аўтамабілі» Ваенгандлю Міністэрства абароны Беларусі, якому інкрымінуецца ўчыненне службовых злачынстваў.**

Пра гэта БелаПАН паведамілі ў Цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязей КДБ рэспублікі. Разам з ім быў затрыманы намеснік старшыні праўлення аднаго з мінскіх камерцыйных банкаў, які падазраецца правааховымі органамі ў крадзяжы ў асабліва буйных памерах. Зараз вядзецца следства, у інтарэсах якога прозвішчы абодвух грамадзян не паведамляюцца.

**Алег САКАЛОЎ, БелаПАН.**

## РАСІЙСКАЯ МЫТНЯ ПЕРАГЛЕДЗЕЛА ПОШЛІНЫ НА АЎТАМАБІЛІ, ЯКІЯ ЎВОЗЯЦЦА З БЕЛАРУСІ

**Як вядома, устанаўленне розных мытных пошлін пры ўвозе аўтамабіляў з-за мяжы (Беларусь — 0,3 ЭКЮ за 1 кубічны сантыметр рабочага аб'ёму рухавіка, Расія — 5 ЭКЮ) прывяло да рэзкага павелічэння колькасці транспартных сродкаў, якія ўвозяцца з тэрыторыі Беларусі ў Расію ў льготным парадку.**

Расійскія мытныя органы выправілі гэтую неадпаведнасць, прыняўшы рашэнне браць з усіх увозімых машын пошліну па 5 ЭКЮ. Гэтае палажэнне не распаўсюджваецца толькі на тых юрыдычных асоб і прыватных прадпрымальнікаў, якія ўвозяць аўтамабілі з Беларусі ў Калінінградскую вобласць — эканамічную зону з асобым статусам.

**Юрый ГАРЫНЬ, БелаПАН.**



Вечнае і зямное. Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

*Генадзь СЕЛЯЗНЁЎ:*

## «БЕЛАРУСЫ І РАСІЯНЕ ПЕРАСТАЛІ БЫЦЬ ІНШАЗЕМЦАМІ»

**Працягваецца першы афіцыйны візіт дэпутатаў расійскай Дзярждумы новага саставу ў Беларусь.**

10 ліпеня з афіцыйным візітам у Мінск прыбыла парламенцкая дэлегацыя Расійскай Федэрацыі на чале са старшынёй Дзярждумы Расіі Генадзем Селязнёвым. У аэрапорце «Мінск-2» Генадзь Селязнёў зазначыў журналістам, што гэта першы афіцыйны візіт дэлегацыі Дзяржаўнай думы Расіі новага саставу ў Мінск, хаця раней расійскім дэпутатам неадноўчы ўжо даводзілася сустракацца з беларускімі калегамі, у тым ліку ў саставе агульнай беларуска-расійскай парламенцкай групы, якая нядаўна збіралася ў Смаленску. Гэты афіцыйны візіт адбываецца ў заключэнне працы сесіі Дзярждумы, перад парламенцкімі канікуламі, зрабіць адказны візіт у нашу краіну расійскім парламентарыям ўдалося толькі цяпер. Хоць, як зазначыў Генадзь Селязнёў, ім даўно хацелася яго ажыццявіць. Перашкаджалі, відавочна, буйныя палітычныя падзеі ў Расіі, звязаныя з прэзідэнцкімі выбарамі. Цяпер, калі падведзены іх вынікі і стала вядома, што ўлада на расійскім алімпе не памянялася, парламентары Расіі і Беларусі могуць больш пэўна планаваць свае далейшыя сумесныя дзеянні. Падчас гэтага візіту падпісання ніякіх міжпарламенцкіх пагадненняў не намячаецца.

— Мы будзем абмяркоўваць з беларускімі дэпутатамі тое, у чым мы як заканадаўцы павінны забяспечваць нармальную работу выканаўчым уладам. Нам трэба будзе рэалізаваць шмат законаў, якія ўжо існуюць... Беларусы і расіяне перасталі быць іншаземцамі, і гэта трэба ўсё заканадаўча прапрацаваць,— падкрэсліў Генадзь Селязнёў.

У Расіі, як і ў Беларусі, парламенты адчуваць цяжкасці з бюджэтным фінансаваннем, але Г. Селязнёў выказаў спадзяванне, што яны не адаб'юцца на міжпарламенцкіх сувязях.

Пасля ўскладання вянка да абеліска на плошчы Перамогі расійская парламенцкая дэлегацыя правяла перагаворы з міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Сянько. Распачынаючы перагаворы, беларускі міністр падкрэсліў значнасць гэтага візіту ў Беларусь расійскіх дэпутатаў пасля важных падзей у Расіі. У Беларусі з вялікай цікавасцю назіралі за ходам прэзідэнцкіх выбараў у Расійскай Федэрацыі і разлічваюць, што пасля іх завяршэння беларуска-расійскія адносіны будуць развівацца гэтак жа ўстойліва і стабільна, як і раней, зазначыў У. Сянько. У пацвярджэнне важнасці курсу на інтэграцыю паміж Масквой і Мінскам Уладзімір Сянько прыгадаў вынікі леташняга рэферэндуму ў нашай краіне, калі каля 80 працэнтаў прагаласаваўшых

(Заканчэнне на 2-й стар.)

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ПАРЛАМЕНЦКІЯ СЛУХАННІ ПА ЭКАНАМІЧНАЙ ПАЛІТЫЦЫ

**Як і чакалася, учарашні дзень Вярхоўны Савет Беларусі прысвяціў парламенцкім слуханням па пытанню аб асноўных напрамках эканамічнай палітыкі. Але перш чым прыступіць да справаздачы аб іх ходзе, засяродзім увагу на раздзеле «рознае», паколькі ён аказаўся даволі насычаным, разнабаковым і цікавым.**

Дэпутат Уладзімір Нісцюк, у прыватнасці, зрабіў запыт на імя прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра наконт невыканання дзяржавай абавязкаў перад людзьмі, якія маюць патрэбу ў лячэнні за мяжой за кошт дзяржавы. У апошні час падобных скаргаў у Камісію па правах чалавека паступае ўсё больш і больш. Павел Знавец зачытаў зварот пятага з'езда Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады адносна статусу дзяржаўнай сімволікі ў краіне. А Мечаслаў Грыб выказаў абурэнне адкрытым лістом да Прэзідэнта ад імя прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі, які быў надрукаваны раней у «Народнай газеце». Ён называўся «Работа па аднаўленню гістарычнай праўды падвяргаецца ярасному супраціўленню з боку нацыянал-экстрэмістаў, якія прэтэндуюць на ісціну ў апошняй інстанцыі» і прысвячаўся некаторым навукова-энцыклапедычным выданням. Аднак М. Грыб заўважыў, што з падпісаўшыхся толькі двое з'яўляюцца гісторыкамі, а ў цэлым «за пісьмом адчуваецца арганізацыя групы людзей са сваімі меркантыльнымі інтарэсамі, якім не падабаецца суверэнная незалежная Беларусь, якія не могуць дачакацца, калі Беларусь стане паўночна-заходнім краем Расіі». Іван Канашук у сваім выступленні закрануў вытворчыя праблемы айчынных цукровых заводаў і калгасаў, якія займаюцца вырошчваннем цукровых буракоў. Праанелізаваўшы сітуацыю ў гэтай галіне, ён заклікаў выканаўчую ўладу прыняць меры для падтрымкі гэтых прадпрыемстваў, для абароны айчыннага рынку ад вытворцаў з Украіны, чый цукар амаль на трыццаць працэнтаў таннейшы за беларускі. Са зваротам да міністраў Стражава і Кеніка выступіў Сяргей Касцян, які патрабуе кадравых

(Заканчэнне на 2-й стар.)

*АТЛАНТА-96*

## ПЕРАМОЖНЫХ ВАМ СТАРТАЎ, ДАРАГІЯ АЛІМПІЙЦЫ!

З добрымі словамі наказу на дарогу да беларускіх алімпійцаў звярнуўся Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, прымаючы іх 10 ліпеня ў сваёй рэзідэнцыі ў Вайсковым завулку ў Мінску. «Праз лічаныя дні вы адпраўляецеся ў Атланту на Алімпіяду-96, дзе адбудуцца цікавыя і захапляючыя старты галоўных спаборніцтваў чатырохгоддзя, — сказаў кіраўнік дзяржавы. — Цяперашнія Гульні знамянальныя тым, што яны праводзяцца ў сваю юбілейную дату — 100-годдзе з дня заснавання сучаснага алімпійскага руху, якое шырока адзначаецца ва ўсім свеце. Для нашых жа спартсменаў яны цікавыя тым, што пасланнікі рэспублікі ўпершыню выступяць на іх асобнай нацыянальнай камандай, чые поспехі добра вядомы на сусветнай спартыўнай арэне».

Потым Прэзідэнт Беларусі ўручыў дзяржаўны сцяг рэспублікі аднаму з нашых слаўных атлетаў Ігару Астапковічу, які і пранясе яго 19 ліпеня на галоўным стадыёне Атланты ў час урачыстага адкрыцця Алімпіяды.

У гэты ж дзень беларускія алімпійцы ўсклалі кветкі да Вечнага агню на плошчы Перамогі сталіцы рэспублікі.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БЕЛТА.**

## МІТРАПАЛІТ ФІЛАРЭТ ДАЎ НАКАЗ БЕЛАРУСКІМ АЛІМПІЙЦАМ

«Я хацеў бы пажадаць беларускім спартсменам задумацца над перавагамі кожнай з тых каштоўнасцей, дасягненне якіх яны ставяць сваёй жыццёвай мэтай, і аддаць прыярытэт мудрасці старажытных айцоў: «Ускладзі на Госпада клопаты твае, і Ён падтрымае цябе». Так гаворыцца ў наказе, які накіраваў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі членам нацыянальнай каманды алімпійцаў нашай краіны перад іх паездкай у амерыканскі горад Атланту на Гульні-96.

Апостал Павел, адзначаецца далей у гэтым наказе, у сваім пасланні карынфянам параўнаў хрысціян, якія імкнуцца атрымаць узнагароду ў царстве Божым, са спартсменамі: «Ці не ведаеце, што бягучыя на рысталішча бягуць усе, але адзін атрымлівае ўзнагароду? Дык бяжыце, каб атрымаць». Калі мэта, што стаіць наперадзе, — гэта сама ісціна, тады кожны чалавек заклікаены імкнуцца citius, altius, fortius — хутчэй, вышэй, мацней, — гаворыцца ў звароце мітрапаліта Філарэта да беларускіх алімпійцаў.

**БЕЛТА.**

## ІВАНКОЎ НА АЛІМПІЯДЗЕ БУДЗЕ ТОЛЬКІ Ў РОЛІ БАЛЕЛЬШЧЫКА

Не наканавана, відаць, пакуль лёсам вядомаму беларускаму гімнасту, абсалютнаму чэмпіёну свету і Еўропы Івану Іванкову стаць уладальнікам алімпійскіх узнагарод. Ужо ў Атланце, дзе нашы гімнасты праходзяць перадалімпійскія зборы, стала вядома, што беларускі гімнаст выйсці на памост не зможа з-за разрыву правага ахіла.

А ў Атланце «балячка» зноў напомніла аб сабе — правы ахіл запаліўся. Іванкоў вымушаны быў звярнуцца ў амерыканскую клініку. Укол толькі ўскладніў справу — блакада стымулявала разрыў звязак, пасля чаго беларусу спатрэбілася аперацыя.

Іванкоў прабудзе ў Атланце да канца Алімпіяды, а, магчыма, застанецца для працягу лячэння і надалей. Трэнеры пакуль гадаюць: хто зможа замяніць «зорку»? Кандыдаты два: Аляксей Сінкевіч і Аркадзь Лапкін. Аднак у апошняга напамінае аб сабе траўма калена. Так што, верагодней за ўсё, скрыпку Іванкова прыйдзецца іграць Сінкевічу.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*Удзельнікам V Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар-96»*

Паважаныя ўдзельнікі і госці юбілейнага V Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар-96»!

Мне вельмі прыемна, што менавіта беларуская зямля стала гасціннай гаспадыняй такога цудоўнага свята мастацтваў, якое аб'яднала ўсю веліч і багацце культур брацкіх славянскіх народаў.

Я сардэчна вітаю прадстаўнікоў усіх краін, якія сабраліся ў гэтыя дні ў г. Віцебску для таго, каб выразіць імкненне да яднання ўсіх людзей добрай волі, незалежна ад нацыянальных адрозненняў і рэлігійных пераканнняў.

Упэўнены, што фестываль стане яшчэ адной выдатнай падзеяй культурнага жыцця, паслужыць справе ўзаемаўзбагачэння нацыянальных культур, будзе садзейнічаць далейшаму ўмацаванню традыцый добрасуседства і супрацоўніцтва, усталяванню на планеце ідэалаў дабра і чалавечнасці.

Няхай усім будзе цёпла і ўтульна на нашай беларускай зямлі. Хачу, каб, раз'язджаючыся ў розныя куткі свету, вы захавалі ў сваіх сэрцах памяць аб дабрыні і шчодрасці душы беларускага народа.

Дазвольце пажадаць усім паклоннікам славянскага мастацтва яркіх, хвалюючых уражанняў.

Няхай кожнаму з удзельнікаў нашага свята спадарожнічаюць высокае натхненне і творчы поспех.

У добры шлях, фестываль!

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

11 ліпеня 1996 года.

# ПЕРСПЕКТЫВЫ СУПРАЦОЎНІЦТВА РАСШЫРАЮЦЦА

Невялікі аўстрыйскі горад Зальцбург — радзіма Моцарта — у апошнія дні прыцягнуў да сабе ўвагу ўсіх сродкаў масавай інфармацыі свету. Тут праходзіла сустрэча на вышэйшым узроўні для дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў рамках Сусветнага эканамічнага форуму. Створаны па ініцыятыве швейцарскага прафесара Клаўса Шваба дваццаць з лішнім гадоў таму, ён аб'яднаў найбольш уплывовых палітыкаў, эканамістаў, банкіраў, бізнесменаў пад дэвізам «палепшыць свет, у якім мы жывём».

У рабоце Зальцбургскага саміта, які праходзіў з 7 па 9 ліпеня, прынялі ўдзел прэзідэнты Аўстрыі, Албаніі, Балгарыі, Румыніі, Славакіі, Славеніі, Украіны, а таксама прэм'ер-міністры Венгрыі, Латвіі, Польшчы, Югаславіі. Дэлегацыю Беларусі ўзначаліў прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка накіраваў у адрас форуму пасланне, у якім змяшчалася высокая ацэнка намаганняў яго арганізатараў.

Асаблівую ўвагу ўдзельнікі саміта ўдзялілі пытанням еўрапейскай бяспекі ў сувязі з маючым адбыцца расшырэннем НАТО. У ходзе дыскусій гучалі розныя думкі, але ў цэлым дамінавала разуменне, што будучая сістэма бяспекі на нашым кантыненце павінна ўлічыць інтарэсы ўсіх дзяржаў і выключыць магчымасць з'яўлення новай «Берлінскай сцяны».

Адной з альтэрнатыў расшырэнню НАТО магла б стаць ідэя аб стварэнні ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе зоны, свабоднай ад ядзернай зброі. Як вядома, 3 ліпеня з гэтай ініцыятывай выступіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Аналагічную прапанову зрабіў на форуме ў Зальцбургу і прэзідэнт Украіны Леанід Кучма. Несумненна, што будучыня Еўропы будзе залежаць ад таго, наколькі хутка ўдасца знайсці ўзаемапрымальнае рашэнне па гэтаму жыццёва важнаму пытанню.

Работа беларускай дэлегацыі не абмяжоўвалася ўдзелам у пленарных і тэматычных пасяджэннях форуму. Міхаіл Чыгір правёў перагаворы з федэральным канцлерам Аўстрыі Францам Враніцкім, у ходзе якіх былі разгледжаны пытанні развіцця двухбаковага супрацоўніцтва. Адбыўся абмен думкамі па пагадненнях, якія плануецца падпісаць у бягучым годзе ў час афіцыйнага візіту федэральнага канцлера ў Беларусь. Дасягнута таксама прынцыповая дагаворанасць аб аднаўленні аўстрыйскай крэдытнай лініі.

Шырокае кола пытанняў, звязаных з развіццём гандлёва-эканамічных сувязей, прыгранічнага супрацоўніцтва, узаемадзеяння з Еўрапейскім саюзам, было разгледжана ў ходзе сустрэчы Міхаіла Чыгіра з прэм'ер-міністрам Польшчы Уладзімежам Цімашэвічам. Два прэм'еры дамовіліся правесці рабочую сустрэчу ў пачатку верасня, у ходзе якой яны маюць намер прыняць удзел у цырымоніі адкрыцця новай беларускай школы ў Беластоцкім ваяводстве і польскай — у Гродне.

Беларусь імкнецца актывізаваць свае адносіны з Еўрапейскім саюзам. Гэта тэма стала прадметам абмеркавання ў час перагавораў беларускага прэм'ера з членам еўрапейскай камісіі Х. Ван дэн Брукам. Міхаіл Чыгір атрымаў запэўніванні свайго субяседніка ў тым, што Еўрапейская камісія мае намер завяршыць да верасня бягучага года працэдуры па ўвядзенню ў дзеянне Часовага пагаднення паміж нашай рэспублікай і ЕС аб гандлі.

Прэм'ер-міністр сустрэўся таксама з першым віцэ-прэзідэнтам Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця Р. Фрыманам, які праінфармаваў аб нядаўна прынятай стратэгіі гэтага банка ў адносінах да Рэспублікі Беларусь і заявіў аб гатоўнасці істотна расшырыць ужо да канца 1996 года колькасць фінансуемых ім праектаў.

У час знаходжання ў Зальцбургу прэм'ер-міністр сустрэўся з кіраўніцтвам вядомых аўстрыйскіх фірмаў «Фест-Альпіне», «Вельц» і «Юрімекс», што праяўляюць вялікую цікавасць да інвесціравання свайго капіталу ў нашу эканоміку. Для больш дэталёвага вывучэння аднаго з інвестыцыйных праектаў урадавая дэлегацыя Рэспублікі Беларусь, у якую акрамя прэм'ер-міністра ўваходзіў міністр фінансаў Павел Дзік, азнаёмілася з работай буйнога транспартнага кантэйнернага тэрмінала.

Удзел беларускай дэлегацыі ў рабоце Зальцбургскага саміта, праведзеныя ёю сустрэчы і перагаворы яшчэ раз пераканаўча пацвердзілі імкненне нашай рэспублікі быць актыўным удзельнікам працэсаў агульнаеўрапейскай інтэграцыі і ўсямерна паглыбляць адносіны з усімі краінамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

## ПАЎДНЁВАКАРЭЙСКАЯ КАРПАРАЦЫЯ ЗАПРАЦУЕ Ў БЕЛАРУСІ

**Праведзеная тры тыдні таму дзелавая размова паміж Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам і кіраўніком паўднёвакарэйскай карпарацыі «ДЭУ» панам Кім Ву Чунгам была прадоўжана 10 ліпеня па просьбе госця.**

Як вядома, пасля папярэдняй сустрэчы была створана рабочая група, якая выпрацоўвала канкрэтныя прапановы аб формах супрацоўніцтва паміж нашай рэспублікай і вядомым у свеце аб'яднаннем. У асноўным яны закранялі тры сферы дзейнасці: машынабудаванне, тэлекамунікацыі і выпуск бытавой і электроннай тэхнікі. Паводле афіцыйных крыніц, карпарацыя гатова выдзеліць для наладжвання сумесных вытворчасцей два мільярды амерыканскіх долараў.

У гутарцы кіраўнік дзяржавы заявіў: «Мы вельмі сур'ёзна ўспрымаем імкненне фірмы працаваць на беларускім рынку і будзем усяляк падтрымліваць яе намеры, ствараючы спрыяльныя ўмовы для інвесціравання ў эканоміку рэспублікі сродкаў». На што пан Кім Ву Чунг адзначыў, што, натхнёны папярэдняй размовай, на гэты раз ён прыбыў у Мінск разам з сынам і поўны жадання даручыць яму развіваць бізнес на нашай тэрыторыі. Паводле слоў госця, карпарацыя гатова прапанаваць беларускім спажыўцам 10—15 відаў сваёй прадукцыі.

**Міхаіл ЖУРАВОВІЧ, БЕЛТА.**

## ДОМ ПРЫНЯЎ ПРЭЗІДЭНТ

**Сітуацыя з забеспячэннем жыллём, што склалася ў апошняе дзесяцігоддзе, стала нездавальняючай. Адной са ступеней вырашэння гэтай праблемы з'яўляецца стварэнне жыллёва-будаўнічых кааператываў. Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ў час прыёмкі жылога дома ЖБК «Зенітчык» ва Уруччы, што адбылася 10 ліпеня.**

Будаўніцтва гэтага будынка было пачата ў кастрычніку 1994 года, аднак пасля ўнясення першых 300 мільёнаў рублёў у кааператыва ўзніклі складанасці з крэдытаваннем. І толькі дзякуючы падтрымцы Прэзідэнта, які ў кастрычніку 1995 года выдзеліў са свайго рэзервовага фонду 7 мільярдаў рублёў, будаўніцтва не прыйшлося замарожваць. Як вядома, пазней кіраўніком дзяржавы быў падпісаны ўказ, што прадугледжваў выдзяленне вялікіх асігнаванняў на будаўніцтва дзяржаўнага і кааператыўнага жылля, у выніку чаго кааператыў зноў атрымаў крэдыт у памеры 10 мільярдаў рублёў. Паводле слоў старшыні кааператыва «Зенітчык» падпалкоўніка Уладзіміра Бутэнкі, толькі дзякуючы асабістай дапамозе Прэзідэнта афіцэры беларускіх Узброеных Сіл, якія чакалі жылля, а сярод іх і 79 выкладчыкаў Ваеннай акадэміі, змаглі атрымаць гэты 144-кватэрны дом.

Выступаючы перад яго будучымі жыльцамі, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што гэта не адзіны дом, які сёння здаецца будаўнікамі. Літаральна за апошнія два месяцы, пасля таго, як стала магчымым прафінансаваць будаўніцтва жылля, толькі ў Мінску здадзена каля 130 тысяч квадратных метраў жылплошчы. «Мы выбралі гэты дзень, гэты дом, гэта месца, — сказаў кіраўнік дзяржавы, — каб яшчэ раз заявіць аб тым, што вострую праблему забеспячэння жыллём можна вырашыць. Мы і далей маем намер выдзяляць сродкі для нашых грамадзян. Перш за ўсё за кошт выдачы беспрацэнтных пазык, у залежнасці ад таго, колькі пражыў чалавек і што ён зрабіў для дзяржавы». На цырымоніі выступілі таксама міністр абароны рэспублікі генерал-лейтэнант Леанід Мальцаў і начальнік Ваеннай акадэміі генерал-маёр Рыгор Флярко.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

## «Беларусы і расіяне перасталі быць іншаземцамі»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

грамадзян выказаліся за цеснае эканамічнае супрацоўніцтва Беларусі з Расіяй. Аднак, на думку У. Сянько, беларусы ўкладвалі больш глыбокі сэнс у разуменне эканамічнай інтэграцыі з Расійскай Федэрацыяй, таму тую палітыку, якую праводзіць цяпер А. Лукашэнка, У. Сянько назваў не толькі яго выбарам, але і выбарам усяго народа... Міністэрства замежных спраў Беларусі, паводле слоў У. Сянько, робіць усё магчымае для развіцця беларуска-расійскіх адносінаў, яно ўсё шырэй і актыўней уключаецца ў гэтую працу. У. Сянько зазначыў, што пры гэтым вельмі важныя асабістыя кантакты кіраўнікоў.

Генадзь Селязнёў і група расійскіх парламентарыяў працавалі падчас гэтага візіту ў асноўным над умацаваннем такіх вось асабістых сувязей. Увечары 10 ліпеня расійскія дэпутаты сустрэліся з беларускім Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам, а пазней — і са Старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім.

Сёння раніцай павінны адбыцца перагаворы расійскіх і беларускіх парламентарыяў у саставе дэлегацый, сустрэча Г. Селязнёва з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі Беларусі, яго выступленне на сесіі Вярхоўнага Савета нашай краіны, сустрэчы з кіраўнікамі ўрада і Канстытуцыйнага суда, а таксама прадстаўнікамі рускай нацыянальнай меншасці ў Беларусі і прэс-канферэнцыя Генадзя Селязнёва і Сямёна Шарэцкага па выніках візіту.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## Парламенцкія слуханні па эканамічнай палітыцы

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

зменаў у іх ведамствах. Падставай для гэтага ён лічыць факт незаконнага атрымання пасведчання ліквідатара наступстваў ад аварыі на ЧАЭС рэктарам Мазырскага педінстытута Уладзімірам Дударэнкам.

Далей парламент прыняў пастанову аб зацвярджэнні спіса народных засядацеляў Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь, якія былі абраны Вярхоўным Саветам днём раней. Пасля гэтага пачаліся згаданыя вышэй парламенцкія слуханні. Перад іх пачаткам у зале ўзнікла пытанне наконт адсутнасці на сесіі Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, які быў афіцыйна запрошаны і папярэджаны яшчэ задоўга да 10 ліпеня. У адказ Сямён Шарэцкі зачытаў ліст ад кіраўніка выканаўчай улады, у якім ён аргументуе сваю адсутнасць. Паводле зместу пісьма, па-першае, Аляксандр Лукашэнка ўжо выступаў у бягучым годзе з дакладам аб становішчы ў краіне, які ён павінен рабіць згодна з Канстытуцыяй штогод, а выступаць другі раз не бачыць патрэбы. Па-другое, увесь Вярхоўны Савет яго на сесію не запрашаў, а гэта зрабіў толькі Прэзідыум, які такога права не мае. «Акрамя таго, — напісаў А. Лукашэнка, — лічу, што першачарговай цяжкасцю з'яўляецца не абмеркаванне пытання аб рэалізацыі эканамічных рэформаў, а пастаянная штодзённая работа па выкананню ўжо прынятых у гэтым накірунку рашэнняў, чым і займаецца Прэзідэнт, выканаўчая ўлада і працоўныя рэспублікі». Частка дэпутатаў адразу ж палічыла такія аргументы непераканаўчымі і ў нейкім сэнсе зняважлівымі для парламента. Аднак гэтая акалічнасць не перашкодзіла рэалізацыі планаў Вярхоўнага Савета.

На слуханні былі запрошаны Уладзімір Шымаў, намеснік міністра эканомікі, Міхаіл Лаўрыновіч, прэзідэнт Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі, Яўген Доўгель, прэзідэнт НПА «ЭКОН», Макс Куняўскі, прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў і арандатараў, Генадзь Лыч, дырэктар інстытута эканомікі Акадэміі навук Беларусі, Уладзімір Гусакоў, дырэктар НДІ эканамічных праблем агракомплексу, Аляксандр Патупа, віцэ-прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў, Антон Юнцэвіч, старшыня Савета калгасаў, а таксама старшыні абласных Саветаў дэпутатаў. З асноўным дакладам на сесіі выступіў старшыня Пастаяннай камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах Васіль Шлындзікаў. Ён прааналізаваў сучасны стан беларускай эканомікі, прывёўшы ў якасці ілюстрацыі некаторыя лічбы. Яго словы пацвердзіў і сп. Шымаў у сваім выступленні. Праўда, ён паведаміў, што апошнім часам няхай і на долі працэнта, але тэмпы спаду вытворчасці знізіліся. Дарэчы, намеснік міністра эканомікі заўважыў, што парламенцкія слуханні па праблемах эканамічнай палітыкі і рэфарміравання можна разглядаць як мерапрыемства надзвычай карыснае і актуальнае. «Гаспадарчая сітуацыя ў краіне складваецца такім чынам, што абмен думкамі ўсіх зацікаўленых бакоў будзе карысным і паслужыць справе выпрацоўкі аптымальных шляхоў рэфарміравання эканомікі», — зазначыў ён. На сесіі выступілі і астатнія запрошаныя. Акрамя іх у парламенцкіх слуханнях актыўны ўдзел прынялі і самі дэпутаты. Абмеркаванне эканамічнага стану краіны і шляхоў выхаду з крызісу прадоўжылася на вячэрнім пасяджэнні Вярхоўнага Савета.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

- У гэтым годзе **знізілася колькасць** стратных прадпрыемстваў гандлю: і калі ў 1995 годзе ў спіс стратных уваходзіла 440 суб'ектаў гаспадарання, то ў 1996 іх засталося 210.
- На 1 студзеня 1996 года ў Беларусі было зарэгістравана **звыш 257 тысяч суб'ектаў гаспадарання недзяржаўнай формы ўласнасці**, у тым ліку 75.266 юрыдычных асоб і 181.939 прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы.
- На 1 студзеня **агульная плошча зямель** у рэспубліцы складае 20,7 млн. га, у тым ліку 9,4 млн. га сельскагаспадарчых зямель.
- **Уласнікамі зямлі** ў нас з'яўляюцца 310 тысяч грамадзян.
- Прыступілі да працы ліквідацыйныя камісіі па банках **«Магнатбанк», «Дукат», «Садружнасць», «Беларускі крэдыт», «Інтэкс».**
- У бліжэйшы час **магчыма аб'яднанне** «Белзнешэканомбанка», «Мінсккомплексбанка», «Комплексбанка», «Брэсткомбанка».
- У 1993—1995 гадах дзяржаўным жыллём было забяспечана ўсяго толькі **2300 чалавек** з ліку ваеннаслужачых, звольненых у запас.

*СІГНАЛ БЯДЫ*

## Светлагорск: не маньяк, дык СНІД

На Гомельшчыне — чарговая бяда: успышка выпадкаў ВІЧ-інфекцыі. Першыя два выпадкі былі выяўлены ў канцы чэрвеня ў Мінску, калі некалькі жыхароў Светлагорска паступілі на лячэнне ў рэспубліканскую псіхіятрычную бальніцу ў Навінках. Потым станоўчыя пробы на ВІЧ-інфекцыю сярод наркаманаў сталі выяўляць работнікі медыцынскіх службаў Светлагорска. Усяго за паўтара месяца — 77 такіх выпадкаў.

У Светлагорску, які даўно атрымаў сумную рэпутацыю «сталіцы беларускіх наркаманаў», на ўліку ў нарколагаў сёння знаходзіцца 208 чалавек. Але медыкі маюць права браць на ўлік наркаманаў толькі пасля звароту апошніх асабіста. А звяртаюцца да ўрачоў звычайна тады, калі пачынаюцца ўжо фізічныя пакуты. «На нашу думку, — сказаў карэспандэнту «Звязды» намеснік галоўурача Светлагорскай райбальніцы Святаслаў Самошкін, — сёння наркаманаў у нас каля тысячы чалавек. Што датычыцца выяўленай сярод іх ВІЧ-інфекцыі, то тром хворым пастаўлены ўжо цвёрды дыягназ, астатнія знаходзяцца ў стане дыягнасціравання. Гэты працэс вельмі складаны, і дакладная пастаноўка дыягназу патрабуе ў кожным выпадку пацвярджэнняў, што робяцца па аснове высокіх тэхналогій сучаснай медыцыны».

На сённяшні дзень ніводзін у свеце інфіцыраваны «чумой XX стагоддзя» пакуль не быў уратаваны ад смерці, а, згодна з сусветнай статыстыкай, на аднаго выяўленага носьбіта гэтай навалы прыпадае 10—15 нявыяўленых. Колькі людзей жыве сярод нас, не ведаючы, што носяць у сабе смерць для сябе і патэнцыяльную пагрозу для іншых?

— Наша задача сёння — асвета насельніцтва, — падкрэсліў Святаслаў Міхайлавіч, дадаўшы, што патрэбна не толькі не даць «чуме» распаўсюдзіцца, але і абараніць ад яе медыкаў, якія рэальна рызыкуюць з такімі «поспехамі» набыць «прафесіянальную хваробу» ў якасці СНІДу. Працаваць медыкам Светлагорска даводзіцца, сапраўды, ва ўмовах асаблівых (нават на «фоне» агульнай беднасці медустаноў краіны). Раённыя і гарадскія ўлады Светлагорска дапамаглі бальніцы з фінансамі, але закупленыя на іх лекі, шпрыцы, дэзінфіцыруючыя сродкі ўсё роўна даводзіцца дзяліць: аддаваць перш за ўсё прыярытэт дзецям, цяжарным жанчынам і самым «экстранным» хворым...

**Таццяна СНІТКО.**

## Даніла МІЦКЕВІЧ



7 ліпеня 1996 года пасля цяжкай хваробы памёр Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч — заслужаны дзеяч культуры Беларусі, сын Якуба Коласа.

Нарадзіўся Даніла Міцкевіч 30 верасня 1914 года ў горадзе Пінску, дзе бацькі працавалі настаўнікамі.

Вучыўся ў 13-й сямігадовай школе г. Мінска, затым у хімпрафшколе. Працаваў лабарантам хіміка-тэхнічнага тэхнікума. З красавіка 1932 па ліпень 1936 года — студэнт хімфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Паступіў у аспірантуру. Вучыўся і адначасова загадваў вытворчай практыкай студэнтаў хімфака БДУ. З верасня 1939 года да пачатку Вялікай Айчыннай вайны працаваў старшым выкладчыкам на факультэце.

У гады ваеннага ліхалецця, як вучоны-хімік, працаваў у галіне абароннай прамысловасці. З мая 1944 па сакавік 1952 года ён — вучоны сакратар Інстытута хіміі Акадэміі навук Беларусі, з сакавіка 1952 года — загадчык лабараторыі гэтага Інстытута.

Для Бацькаўшчыны бацькаўшчыну захоўваць быў закліканы Даніла Канстанцінавіч пасля смерці Якуба Коласа. У красавіку 1957 года ён прызначаецца дырэктарам музея народнага паэта. Усё, што датычылася памяці песняра, турбавала і хвалявала найперш Коласавага сына.

Дасканалы знаўца біяграфіі народнага паэта, ён шчодра задавальняў патрэбы ўсіх цікаўных. Неацэнную паслугу аказаў работнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі пры падрыхтоўцы 12- і 14-томных Збораў твораў Якуба Коласа: вытлумачыў шмат якія моманты гісторыі напісання твораў, пракаменціраваў багатую эпісталярную спадчыну песняра.

Ахвотна Даніла Канстанцінавіч сустракаўся з наведвальнікамі музея, бачыўся з народам і «ў адрыве ад вытворчасці»: выступаў у навучальных установах, у працоўных калектывах.

Можна было пазайздросціць яму ў начытанасці, у шырокай эрудыцыі. Аўтары розных кніг раіліся з Данілам Канстанцінавічам, запісалі ад яго невядомыя звесткі. Ён — адзін са складальнікаў зборнікаў аб жыцці і дзейнасці Якуба Коласа, альбомаў, іншых выданняў. Ні адно свята Коласаўскае, ні адна вечарына не праходзілі без яго ўдзелу.

Звыш дваццаці гадоў кіраваў Даніла Канстанцінавіч Літаратурным музеем Якуба Коласа, гэтай святыняй Беларусі (адкрыты музей быў 4 снежня 1959 года). Кіраваў дбайна і аўтарытэтна. З 1980 года Даніла Міцкевіч, персанальны пенсіянер, служыў Коласаваму дому ў годнасці старшага навуковага супрацоўніка.

Апошнім часам цікавыя старонкі жыццяпісу славутага бацькі ён прапанаваў удзячным радыёслухачам і чытачам. Верыцца — яны, гэтыя старонкі, прыйдуць да прыхільнікаў творчасці вялікага песняра, асобнай кнігай.

Даніла Міцкевіч узнагароджаны Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета Беларусі, Ганаровай граматай Міністэрства культуры СССР і ЦК прафсаюзаў работнікаў культуры, медалямі «За доблесную працу ў гады Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гадоў», «Ветэран працы», медалём Францішка Скарыны.

Ад нас пайшоў людскі, мудры чалавек, самы коласаўскі Коласавец.

Памяць пра Данілу Канстанцінавіча Міцкевіча нязгасная ў сэрцах усіх, хто яго ведаў.

**Міністэрства культуры Беларусі, Саюз беларускіх пісьменнікаў, Аб'яднанне Дзяржаўных літаратурных музеяў, Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа**







# Будслаўскі фэст











У ГІСТОРЫІ Будслаўскага касцёла былі тры асабліва цяжкія перыяды — пры камуністах, фашыстах і цару Аляксандру. Рускі манарх прыпыніў дзейнасць касцёла за ўдзел будслаўскіх манахаў у паўстанні 1863-1864 гадоў. Але і ў змрочныя часы, калі святароў выганялі і катавалі, а вернікаў праследавалі, традыцыя не памірала, і ў першыя дні кожнага ліпеня, каля сцен бернардынскага храма было заўсёды ажыўлена.

Сёння ў гэты дзень дзякуючы навукова-тэхнічнаму прагрэсу да Будслава дабіраюцца дзесяткі тысяч вернікаў і проста цікаўных, і старажытны каталіцкі фэст набывае размах еўрапейскага маштабу.

Не толькі ў жыцці выміраючага мястэчка, але і для кожнага, хто імкнецца сюды, такі доўгачаканы і асаблівы гэты дзень. Ад жадаючых тут немагчыма прабіцца да алтара Ушэсця Марыі, да воблікаў пазалочаных апосталаў, але вольны прайсціся ноччу ў святочным шэсці са свечкамі вакол храма. Калодзеж у касцёльным двары нагадвае французскую Бастылію падчас асады. У гэты дзень вада лічыцца святою. Тут і традыцыйны кірмаш, на якім як да вайны і ў пасляваенныя гады можна купіць самае рознае — ад Бібліі і крыжыка да цукровага пеўніка на палачцы. Ксяндзы і манахі даюць індульгенцыю кожнаму, хто яе прагне. І, вядома — святая імша. 2 ліпеня — дзень Цудатворнага вобраза Божай Маці Будслаўскай. І гэтым усё сказана.

Пачыналася гісторыя ўслаўлення вобраза прыблізна з 1589 года, калі мінскі ваявода Ян Пац ахвяраваў бернардынцам вобраз св. Багародзіцы, падораны яму папам Рымскім Клімента VIII. Для такой святыні патрабаваліся адпаведныя сцены, і ордэн Бернардынцаў у 1643 годзе ўзвёў мураваны касцёл, які ў далейшыя часы набыў у сваім архітэктурным абліччы рысы позняга барока.



Важнай адметнасцю сёлетняга фэсту стала абвяшчэнне дазволу Ватыкана лічыць Будслаўскую Маці Божую «патроншай» Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі. Гэта значыць, «апякункаю Беларусі». З гэтай місіяй прыбыў у краіну нунцый апостальскі арцыбіскуп Дамінік Грушэўскі.

Па нумарах аўтамабіляў, па акцэнтах і гаворках можна было здагадацца, што фэст сабраў пілігрымкаў не толькі з Беларусі, але і з Польшчы, Украіны, Расіі і нават з горада Маркс. Уздоўж рэчкі Сэрвач і гарадскім парку разбіліся палатачныя гарадкі паломнікаў. Нягледзячы, што ўпершыню тут сабраліся прадстаўнікі ўсіх рымска-каталіцкіх ордэнаў, Будслаўскі фэст бясспрэчна становіцца вельмі цікавай агульнабеларускай з'яваю і наогул выходзіць за канфесійныя межы.

Анатоль КЛЯШЧУК. Фота аўтара.

*Мядзельскі раён.*

# «Журналістыка стала драбнейшай, але гэта — выдаткі часу»

**Амаль што ўвесь навучальны год адзіны ў рэспубліцы факультэт журналістыкі БДУ заставаўся без «галавы» — былы дэкан А. Слука перайшоў працаваць на адказную пасаду памочніка Прэзідэнта РБ. Выбраць кіраўніка творчага факультэта аказалася задачай няпростай. І вось, нарэшце, яна вырашана — дэканам журфака стаў 42-гадовы кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры гісторыі беларускай журналістыкі і літаратуры Пётр ДАРАШЧОНАК.**



**— Якім быў ваш шлях да гэтай высокай пасады?**

— Шлях быў досыць цікавы і разнастайны — у тым сэнсе, што мне давялося, у адрозненне ад папярэдніх дэканаў, якія займаліся толькі навукова-выкладчыцкай дзейнасцю, папрацаваць практычным журналістам — у шматтыражках 11-га падшыпнікавага завода, Мінскага медінстытута, а таксама ў гарадской газеце «Вечерний Минск». Потым, ужо ў даволі сталым узросце, — аспірантура: хацелася сказаць сваё слова і ў навуцы. Зацікавіла мяне гісторыя журналістыкі, у прыватнасці, развіццё друку Беларусі ў першыя гады савецкай улады. У гэтым напрамку, здаецца, удалося многае зрабіць: даследаваў шмат архіўных матэрыялаў, многа газет літаральна вярнуў да жыцця, многіх забытых за дзесяцігоддзі журналістаў, мусіць, ніхто б і не ўспомніў... А я чытаю курс «Гісторыя беларускай журналістыкі», і мая навуковая праца — каштоўны здабытак акурат для гэтага курса. Для студэнтаў чытаю таксама спецкурс «Праблемы нацыянальнай дзяржаўнасці ў сродках масавай інфармацыі», да нядаўняга часу — лекцыі па курсу «Гісторыя Беларусі». Гісторыя — маё прызванне, якое вызначылі яшчэ школьныя настаўнікі. Але на гістарычны факультэт чамусьці не пайшоў. Так атрымалася, што гістарычная тэма мяне напаткала на журфаку.

**— Пётр Леанідавіч, ведаю, што вы працуеце і ў газеце...**

— Да гэтага часу я працаваў у камерцыйных выданнях (у якія, дарэчы, не так проста было трапіць — неабходна было прайсці конкурс і прадставіць макет газеты з арыгінальнымі ўласнымі распрацоўкамі) — газеты «Криминал. Обозрение. Детектив» (КОД) і «Догадки и открытия» (ДиО). Гэтыя выданні навучылі мяне перспектыўнаму бачанню журналістыкі: у рэдакцыях навейшае камп'ютэрнае абсталяванне. Я працую шэф-рэдактарам, гэта значыць, вызначаю канцэпцыю кожнага нумара.

**— Вы мяркуеце пакінуць працу ў газетах у сувязі з прызначэннем на пасаду дэкана?**

— Складанае пытанне... Знаёмы, вярнуўшыся з Венгрыі, сказаў: там 2 выхадныя дні, але толькі багатыя людзі могуць дазволіць сабе не працаваць у суботу.

**— Пётр Леанідавіч, што, на ваш погляд, зараз адбываецца з журналістыкай? Некаторыя ўпэўнена сцвярджаюць, што яна ператварылася ў «першую старажытную прафесію»...**

— Не ператварылася! Журналістыка — адзін з дэмакратычных інстытутаў грамадства, у нас ёсць газеты розных палітычных партый, рухаў, плыняў: кожны чалавек можа свабодна выказаць сваю думку.

**— Вам не здаецца, што сумленная, даследчая журналістыка ўсё ж знікае, многія таленавітыя журналісты пайшлі ў газеты камерцыйнага кшталту. «Хто плаціць, той заказвае і музыку» — ці не перафарбуецца журналістыка ў жоўты колер?**

— Гэта выдаткі пераходнага часу, у якім мы зараз жывём... Можна зразумець людзей, якія пайшлі ў камерцыйныя структуры: яны хочуць зарабляць грошы, каб забяспечыць сем'і, тут нічога страшнага няма... Пра сур'ёзную, даследчую журналістыку, якая, як кажуць, глыбока капае, трэба адзначыць: вельмі многа было забароненых тэм у брэжнеўскі час, існавалі вялікія абмежаванні з боку галоўліта, які пільна ахоўваў безгаспадарчасць з дапамогай журналістыкі: карэспандэнт быў скаваны рознымі абмежаваннямі, інструкцыямі. У 1987—91 гадах адбыўся моцны ўсплеск у развіцці журналістыкі. Але «дзевяты вал» прайшоў, журналістыка апошніх гадоў, сапраўды, крыху драбнейшая. І ўсё ж, паўтараю, гэта — выдаткі часу. На журфаку мы стараемся пераадолець іх. Ужо ёсць напрацоўкі, звязаныя з далучэннем да нялёгкай выкладчыцкай працы вядучых журналістаў-практыкаў: А. Акулік («Рэспубліка»), Л. Белякова («Белорусская нива»), У. Вялічка («Беларуская думка»), іншыя актыўна супрацоўнічаюць з журфакам. Адначасова мы павінны больш смела і адкрыта глядзець у еўрапейскае супольніцтва, дзе журналістыка з'яўляецца ўплывовай сілай, да якой прыслухоўваюцца ўлады.

**— З якой праграмай вы прыйшлі на пасаду дэкана?**

— Сітуацыя склалася няпростая і з факультэтам, і з вышэйшай адукацыяй увогуле. Журфаку споўніцца 52 гады, апошнія 10 гадоў мы знаходзімся ў плыні дэмакратычнага развіцця, пракладваючы шлях у трэцяе тысячагоддзе. Чатыры дзесяцігоддзі факультэт рыхтаваў ідэалагічных байцоў, якія падтрымлівалі рашэнні КПСС, але ў апошні час знікла «накіроўваючая сіла», абвешчана беларуская дзяржаўнасць, прыняты Закон аб друку. Гэта вымагае значнай пераарыентацыі.

**— А якой, калі не сакрэт?**

— Цяпер мы павінны рыхтаваць добрага прафесіянала і шырока адукаванага гуманітарыя, які будзе працаваць у сродках масавай інфармацыі самага рознага накірунку: на радыё, тэлебачанні, у дзяржаўных газетах і нават у апазіцыйных (няхай працуе, калі ён не будзе мець канфліктаў з законам). Але магчымасцей для гэтага ў факультэта не так ужо і шмат. Матэрыяльна-тэхнічная база павінна значна паляпшацца, інакш аддзяленні журналістыкі, створаныя ў недзяржаўных ВНУ, могуць нас абагнаць. Неабходна пашырыць вучэбныя плошчы, абнавіць абсталяванне тэле-, радыё-, фотастудый, камп'ютэрнага класа, стварыць новае пакаленне праграм і дысцыплін. У нас няма новых падручнікаў. На аснове будучага факультэцкага цэнтра камунікацыйных тэхналогій навучання мяркуем выдаваць манаграфіі, дапаможнікі, зборнікі навуковых артыкулаў. У сённяшніх камерцыйных умовах навуковыя працы наўрад ці хто будзе з ахвотай друкаваць, гэтай справай мы павінны займацца самі. З гэтага года на журфаку адкрываецца новая спецыяльнасць — інфармацыя і камунікацыя, з ёй звязаны вялікія надзеі. Будзем рыхтаваць спецыялістаў па аўдыёвізуальнай, міжнароднай, рэкламнай камунікацыях, па сувязях з грамадскасцю.

**— Іншымі словамі, кадры вырашаюць усё?**

Яшчэ адна праблема — амаладжэнне выкладчыцкага калектыву. 80 працэнтаў прафесараў журфака — людзі пенсіённага ўзросту. Так, яны яшчэ доўга і плённа будуць працаваць, аднак ужо цяпер варта думаць, каму яны перададуць эстафету. Многае, канешне, упіраецца ў малы заробак: Генадзь Бураўкін, выступаючы па радыё, гаварыў, што выкладчык ВНУ атрымлівае чвэрць стаўкі паставога сяржанта. Што ж, будзем рыхтаваць прафесараў, каб яны атрымлівалі хаця б палову стаўкі гэтага сяржанта!... Падрыхтоўка кандыдатаў і дактароў навук павінна ісці мэтанакіравана і безупынна. Сярод студэнтаў трэба шукаць і падтрымліваць таленты — не толькі журналісцкія, але і навуковыя. Неабходна заахвочваць выдатнікаў вучобы, вярнуцца да некаторых, на першы погляд, простых, але даволі эфектыўных сродкаў выхавання студэнцкай моладзі: дошка гонару выдатнікаў (у сучасным афармленні), ганаровыя граматы, падзячныя пісьмы бацькам, каштоўныя падарункі.

На факультэце, мне здаецца, павінна быць забаронена курэнне — не фармальна, а фактычна. Статыстыка сведчыць, што сярэдняя працягласць жыцця журналіста — 54 гады. Калі гэта мужчына, значыць, наш выпускнік недадае дзяржаве 6 гадоў працы — ужо не кажучы пра ўласную сям'ю. Дзяўчаты, якіх на журфаку пераважная большасць, дык наогул — будучыя маці. А калі ўлічыць, што праз некалькі гадоў да нас прыйдуць аслабленыя дзеці Чарнобыля, то становішча можа скласціся пагражальнае. Трэба забараніць гэту шкодную «багемную» звычку — курэнне. Можа, нялішне было б арганізаваць «рух без цыгаркі», у рамках якога праводзіць творчыя мерапрыемствы, сустрэчы за шклянкай гарбаты. Вольны час павінен праводзіцца цікава.

**— Дзякую за гутарку. Плёну вам!**

**Інтэрв'ю вяла Таццяна ПАДАЛЯК.**




# ПЕСНІ НАД ВОЗЕРАМ

## НАТАТКІ З АДНАГО ФЕСТЫВАЛЮ

**У возера Нарач шмат «цёзак» на беразе. Курортны пасёлак, санаторый, дом адпачынку, калгас, нават вялікая вёска... «— Адкуль ідзеш? — З Нарачы. — А куды? — У Нарач», — жартуюць мясцовыя жыхары. Мо таму Рэспубліканскі фестываль харавога мастацтва «Пеўчае поле» не меў, насуперак традыцыі, ніякага канкрэтна акрэсленага адрасу (маю на ўвазе пэўны населены пункт). Месца яго правядзення значылася адным словам: «Нарач». Зрэшты, так яно, бадай, было правільней за ўсё: усе тры дні, што праходзіў фестываль, прыгожыя песні гучалі па ўсім наваколлі славутага возера.**

### З ПЕРАДГІСТОРЫІ

На беразе возера, каля дарогі, што вядзе з Мядзеля ў Паставы, стаіць на пагорку шэрая бетонная стэла з барэльефам. Гэта помнік партызанам Нарачанскага краю. Ля помніка бязлюдна і ціха: бліжэйшае паселішча кіламетры за тры ад яго. Але вось ужо сорак чатыры гады ў першую нядзелю ліпеня тут збіраюцца людзі з усяго наваколля. Збіраюцца, каб ушанаваць памяць загінуўшых у вайну і адсвяткаваць чарговую гадавіну вызвалення роднага краю. А яшчэ — людзі спяваюць. Здаецца, вельмі мудра. Песня якраз самы універсальны сродак для смутку, памяці, радасці...

Тады, у далёкім 52-м, на свята песні і працы з'ехаліся толькі мясцовыя самадзейныя калектывы. Але з кожным годам удзельнікаў свята станавілася ўсё больш і больш. Спачатку са сваімі песнямі выступалі жыхары Мядзельшчыны. Потым пачалі прыязджаць госці з суседніх раёнаў. Свята набыло статус абласнога фестывалю, на бераг Нарачы штогод прыязджалі паказваць сваё майстэрства лепшыя харавыя калектывы Міншчыны...

### З ГІСТОРЫІ

Год назад фестываль «Нарачанскія росы» быў перайменаваны ў «Пеўчае поле» і ўпершыню праводзіўся як рэспубліканскі. Ідэя правядзення агульнарэспубліканскага музычнага свята адраджэння з такой назвай была прапанавана Валянцінай Коўтун два гады таму. Рэалізаваць гэту ідэю цалкам ва ўсёй яе грандыёзнасці не ўдалося, а яе назву надалі фестывалю харавога мастацтва. Па словах Тадэвуша Стружэцкага, начальніка ўпраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры, яшчэ «ў лепшыя часы» Цэнтральны Камітэт КПБ прымаў дзве пастановы аб будаўніцтве для правядзення такога фестывалю спецыяльнай сцэны ў сталіцы. Але спачатку не дайшлі рукі, потым не хапіла грошай, потым пастановы ЦК, як і сам камітэт, страцілі сваю сілу... Так і засталася б прыгожая ідэя толькі ідэяй, калі б ініцыятыўныя людзі не ўспомнілі пра фестываль на Нарачы, які ўжо сам па сабе выйшаў далёка за межы Мінскай вобласці... Першая спроба аказалася даволі ўдалай, і сёлета фестываль харавога мастацтва праводзіўся на дзяржаўным узроўні другі раз.

### КОНКУРС

Упершыню за сорак чатыры гады ўдзельнікі свята не толькі паказвалі сваё майстэрства, але і спаборнічалі за права лічыцца лепшым харавым калектывам краіны. У доме культуры вёскі Нарач (яна раней называлася Кабыльнікі) спявалі прадстаўнікі ўсіх абласцей, стараючыся ў параўнальна невялікай праграме паказаць усе свае здольнасці і магчымасці. Старацца было перад кім: судзіла конкурс кампетэнтнае і паважанае журы, у саставе якога былі кіраўнік хору імя Цітовіча Міхась Дрынеўскі, рэктар Беларускай акадэміі музыкі Міхаіл Казінец, супрацоўнікі універсітэта культуры — карацей, людзі, якія маюць самае прамое дачыненне да музыкі і харавога мастацтва... Калі пабачыла, як нерваваліся перад выступленнем канкурсанты, узнікла сумненне: а ці трэба было ў рамках традыцыйнага фестывалю праводзіць спаборніцтва, якое ў непасрэднасць і нязмушанасць свята дадало напружанасці і хвалявання?

— Трэба было, — развеяў мае сумненні старшыня журы Міхась Дрынеўскі. — Дзякуючы падрыхтоўцы да конкурсу ўдзельнікі аднесліся з большай адказнасцю да свята, што станоўча адбілася на прафесіянальным узроўні іх выступленняў. Праўда, на будучае трэба прадумаць іншыя ўмовы правядзення, магчыма, трэба ўвесці намінацыі, таму што цяжка параўноўваць, напрыклад, хор народнага накірунку і акадэмічны калектыў...

### СВЯТА

Сёлета свята на Нарачы было падвоеным: фестываль па часе супаў з Купаллем. І хоць у святочную ноч спачатку пакропваў, а потым наогул лінуў дождж, ля возера Мястра ў Мядзелі гарэлі запаленыя пасля неаднаразовых спроб вогнішчы, гучала вечнае, як свет, «Ой, рана на Івана»...

А назаўтра ўсе сабраліся ля помніка партызанам. Прагучалі прамовы прадстаўнікоў улады, ні для каго не новыя, але традыцыйныя і вельмі ўжо для нас прывычныя. Да помніка ўсклалі кветкі. А потым на пляцоўцы запеў фестываль: калектывы давалі свой заключны канцэрт. Спяваў зводны хор, спявалі ўдзельнікі, спявалі госці, здавалася, спявала сама Нарач...

### ГОСЦІ

Пастаянныя госці свята — народны акадэмічны хор імя Цітовіча, акрамя традыцыйнай праграмы, прывёз на гэты раз нешта незвычайнае. Хор спяваў... у касцёле. Напэўна, каталіцкі храм вёскі Нарач ніколі дагэтуль на чуў у сваіх сценах столькі прыгожых галасоў і такога ўзнёслага пранікнёнага выканання духоўных спеваў...

Прыехаў на фестываль харавы калектыў «Васілёчкі» з Польшчы. Артысты нават прымалі ўдзел у конкурснай праграме. Праўда, і выкананнем, і вакальнымі данымі польскія беларусы не маглі параўнацца з некаторымі нашымі калектывамі, але ўжо тое, што яны захоўваюць беларускую песню няхай сабе і ў суседняй, але ўсё ж чужой дзяржаве, заслугоўвае самай шчырай павагі.

Выступалі на свяце і госці з Фінляндыі. Яны ўразілі гледачоў не столькі спевамі, колькі дагэтуль не бачанымі нацыянальнымі касцюмамі, чаравікамі з загнутымі насамі і сваёй такой падобнай на нашу па вымаўленню, але такой незразумелай мовай

Пад заслону фестывалю выступіў тэатр эстрады з суседняй Вілейкі. Праўда, да харавога мастацтва калектыў ніякага дачынення не мае, але ўсё ж па суседству прыехалі паспяваць. Спявалі шмат чаго: ад рэпертуару Наташы Каралёвай і ранняй Каці Сямёнавай да аднаго з апошніх беларускіх шлягераў з гуллівай назвай «Хлопцы, давай!»...

### ПЕРАМОЖЦЫ

Быў конкурс, а значыць, былі пераможцы. Лепшым быў прызнаны пастаянны ўдзельнік фестывалю народны ансамбль песні і танца «Спадчына» з Маладзечна, якім кіруе на працягу многіх гадоў вядомы дзеяч культуры Іосіф Сушко. Другое месца прысудзілі народнаму ансамблю песні і танца з Баранавіч, а трэцяе падзялілі паміж сабой народны хор з Віцебска і харавы калектыў Мінскага вучылішча мастацтваў. Астатнія атрымалі спецыяльныя дыпломы за прапаганду харавога мастацтва і актыўны ўдзел у фестывалі.

Магчыма, конкурс стане яшчэ адной добрай традыцыяй нарачанскага свята. Хоць колькасны склад калектываў апошнім часам пастаянна змяншаецца, гэта не ўплывае на іх прафесіянальны ўзровень. Тым больш на Беларусі нямала калектываў, якія не супраць будуць прыехаць і паспаборнічаць у песнях.

* * *

Да наступнага ліпеня адзвінела свята, змоўклі песні. Хаця апошняе, бадай, — памылкова сказана. На Нарачы, лічыцца, самыя пявучыя людзі жывуць.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**



**На здымку:** хор імя Цітовіча ў Нарачанскім касцёле.

# Закон Рэспублікі Беларусь

## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

У мэтах упарадкавання льгот і пераваг унесці ў некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь наступныя змяненні і дапаўненні:

І. У Закон Рэспублікі Беларусь ад 13 лютага 1991 года «Аб статусе народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 1991 г., №14, арт. 157):

1. Часткі другую і трэцюю артыкула 33 выключыць.

2. Артыкул 35 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 35. Парадак забеспячэння праезду дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Дэпутату Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прадастаўляецца права першачарговага набыцця праязных дакументаў, а пры адсутнасці месцаў — бесперашкоднага праходу на пасадку без права заняцця месца з наступнай аплатай кошту праезду. Гэтыя правы распаўсюджваюцца на асобу, якая суправаджае дэпутата Вярхоўнага Савета — інваліда І групы».

ІІ. У Закон Рэспублікі Беларусь ад 22 лютага 1991 года «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 1991 г., №10, арт. 111; Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., №4, арт. 73; 1995 г., №33, арт. 429):

1. У артыкуле 14 словы «якія знаходзіліся ў перыяд з 26 красавіка па 31 мая 1986 года на дадзеных тэрыторыях» выключыць.

2. У пункце 9 артыкула 15 словы «якія знаходзіліся ў перыяд з 26 красавіка па 31 мая 1986 года на тэрыторыях радыеактыўнага забруджання (уключаючы дзяцей, якія знаходзіліся ва ўнутрычэраўным стане)» выключыць.

3. Пункт 13 часткі першай артыкула 22 пасля слова «атрыманне» дапоўніць словамі «(у выпадку адмаўлення пры перасяленні ад кампенсацыі за жыллё, якое належыць на праве асабістай уласнасці)».

4. Пункт 16 часткі першай артыкула 23 выключыць.

5. У частцы чацвёртай артыкула 24 словы «пунктам 16 часткі першай артыкула 23» выключыць.

6. Артыкул 39 выключыць.

ІІІ. У Закон Рэспублікі Беларусь ад 26 лютага 1991 года «Аб міліцыі» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 1991 г., №13, арт. 150):

1. Пункт 23 артыкула 16 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«23) карыстацца бясплатна па спецыяльнаму знаку ўсімі відамі грамадскага транспарту (акрамя таксі) гарадскіх, прыгарадных і мясцовых зносін у межах рэспублікі, а таксама спадарожным транспартам; работнікі міліцыі на транспарце ў межах рэспублікі маюць, акрамя таго, права бясплатнага праезду ў паяздах і на рачных суднах па спецыяльнаму знаку».

2. Часткі сёмую — дзевятую артыкула 28 і частку сёмую артыкула 38 выключыць.

IV. У Законе Рэспублікі Беларусь ад 29 кастрычніка 1991 года «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1991 г., №33, арт. 598) частку першую артыкула 30 пасля абзаца сёмага дапоўніць новым абзацам наступнага зместу:

«на 50-працэнтную скідку з кошту праезду ў гарадскім і прыгарадным транспарце (акрамя таксі)».

V. У Законе Рэспублікі Беларусь ад 11 лістапада 1991 года «Аб сацыяльнай абароне інвалідаў у Рэспубліцы Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1991 г., №34, арт. 611; 1994 г., №8, арт. 115) частку другую артыкула 15 дапоўніць сказам наступнага зместу: «Дзеці-інваліды ва ўзросце да 16 гадоў забяспечваюцца лякарствамі і медыкаментознымі сродкамі па рэцэптах лечачых урачоў бясплатна».

VI. У Законе Рэспублікі Беларусь ад 27 сакавіка 1992 года «Аб статусе народнага дэпутата мясцовага Савета народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., №13, арт. 217) артыкул 35 выключыць.

VII. У Законе Рэспублікі Беларусь ад 17 красавіка 1992 года «Аб ветэранах» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., №15, арт. 249; 1994 г., №11, арт. 152) артыкул 17 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 17. Праезд у грамадскім пасажырскім транспарце

Ветэранам, якія дасягнулі: мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў, прадастаўляецца 50-працэнтная скідка з кошту праезду на ўсіх відах гарадскога і прыгараднага пасажырскага транспарту (акрамя таксі), а пражываючым у сельскай мясцовасці — і на аўтобусах міжгародніх маршрутаў у межах адміністрацыйнага раёна па месцы жыхарства».

VIII. У Законе Рэспублікі Беларусь ад 5 лістапада 1992 года «Аб пагранічных войсках Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., №31, арт. 511) абзац пятнаццаты часткі першай артыкула 7 выключыць.

IX. У Закон Рэспублікі Беларусь ад 29 студзеня 1993 года «Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1993 г., №10, арт.95; 1994 г., №30, арт.513; 1995 г., №19, арт.230):

1. У артыкуле 43:

у частцы чацвёртай першы сказ выключыць;

частку пятую выключыць;

часткі шостую — дзевятую лічыць адпаведна часткамі пятай — восьмай.

2. Частку дзевятую артыкула 44 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Пракурорскія работнікі пры выкананні службовых абавязкаў маюць права па спецыяльнаму знаку бясплатна карыстацца ўсімі відамі грамадскага і чыгуначнага пасажырскага транспарту гарадскіх, прыгарадных і мясцовых зносін (акрамя таксі); пры накіраванні ў службовыя камандзіроўкі карыстаюцца правам браніравання і атрымання без чаргі месцаў у гасцініцах і набыцця праязных дакументаў на ўсе віды транспарту».

X. У Законе Рэспублікі Беларусь ад 15 чэрвеня 1993 года «Аб пажарнай бяспецы» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1993 г., №23, арт. 282) частку другую артыкула 36 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Работнікі дзяржаўнага пажарнага нагляду, якія працуюць у сельскай мясцовасці, маюць права бясплатна карыстацца ўсімі відамі грамадскага транспарту (акрамя таксі) па спецыяльнаму знаку».

XI. У Законе Рэспублікі Беларусь ад 18 чэрвеня 1993 года «Аб ахове здароўя» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1993 г., №24, арт. 290) артыкул 46 дапоўніць часткай другой наступнага зместу:

«Асобы, якія пакутуюць на прамянёвую хваробу або перанеслі такую хваробу, а таксама асобы, якія пакутуюць на захворванні, што ўваходзяць у спецыяльны пералік Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, забяспечваюцца лякарствамі і медыкаментознымі сродкамі па рэцэптах лечачых урачоў бясплатна».

XII. У Закон Рэспублікі Беларусь ад 19 лістапада 1993 года «Аб правах дзіцяці» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1993 г., №33, арт. 430):

1. Частку другую артыкула 6 дапоўніць сказам наступнага зместу: «Дзеці ва ўзросце да трох гадоў забяспечваюцца лякарствамі і медыкаментознымі сродкамі па рэцэптах лечачых урачоў бясплатна».

2. Дапоўніць Закон артыкулам $6^1$ наступнага зместу:

«Артыкул $6^1$. Права на бясплатны праезд

Дзеці ва ўзросце да сямі гадоў маюць права бясплатнага праезду ў гарадскім і прыгарадным транспарце (акрамя таксі)».

XIII. У Закон Рэспублікі Беларусь ад 21 снежня 1994 года «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995 г., №7, арт. 95, 98; №8, арт. 103):

1. Абзац чацвёрты часткі першай артыкула 110, два апошнія сказы артыкула 112, артыкул 113 выключыць.

2. У артыкуле 116:

у абзацы трэцім часткі другой словы «са скідкай 50 працэнтаў па аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг» выключыць;

у абзацы чацвёртым часткі другой словы «яго і членаў яго сям'і» выключыць;

абзац шосты часткі другой выключыць.

XIV. У Закон Рэспублікі Беларусь ад 13 студзеня 1995 года «Аб судаўладкаванні і статусе суддзяў у Рэспубліцы Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995 г., №11, арт. 120):

У артыкуле 76:

частку дзесятую выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Жылыя памяшканні, што займаюць сем'і суддзяў, якія маюць стаж работы суддзёй больш 20 гадоў, перадаюцца ў іх уласнасць бясплатна з улікам жыллёвай квоты (сумы квот), устаноўленай заканадаўствам»;

частку адзінаццатую выключыць;

часткі дванаццатую — дзевятнаццатую лічыць адпаведна часткамі адзінаццатай — васемнаццатай.

XV. У Закон Рэспублікі Беларусь ад 30 студзеня 1995 года «Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995 г., №13, арт. 128):

У артыкуле 26:

у частцы другой:

у абзацы трэцім словы «са скідкай 50 працэнтаў па аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг» выключыць;

у абзацы чацвёртым словы «і членаў яго сям'і» выключыць;

абзац пяты выключыць;

частку шостую выключыць;

часткі сёмую — дзевятую лічыць адпаведна часткамі шостай — восьмай.

XVI. У Закон Рэспублікі Беларусь ад 21 лютага 1995 года «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995 г., №17, арт. 179):

У частцы першай артыкула 38:

у пункце 2 словы «са скідкай 50 працэнтаў па аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг» выключыць;

у пункце 3 словы «яго і членаў яго сям'і» выключыць;

пункты 5 і 6 выключыць.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

3 мая 1996 г., г.Мінск, № 440-XIII.

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### Аб паўторным абмеркаванні і галасаванні Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь»

Паўторна абмеркаваўшы ў адпаведнасці з пунктам 20 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь вернуты Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Закон Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь», прыняты 3 мая 1996 года, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Пацвердзіць рашэнне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 3 мая 1996 года аб прыняцці Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ**

26 чэрвеня 1996 г., г.Мінск, № 399-XIII.

# ПАСТАНОВЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### Аб справаздачы Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню факта затрымання праваахоўнымі органамі дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Знаўца П. К.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць справаздачу старшыні Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Грыба М.І.

2. Адзначыць, што пры правядзенні аператыўных мерапрыемстваў, звязаных з падзеямі, якія адбыліся 26 красавіка 1996 года пасля несанкцыяніраванага шэсця ў г.Мінску, прадстаўнікамі праваахоўных органаў Рэспублікі Беларусь былі дапушчаны парушэнні заканадаўства ў адносінах да дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Знаўца П. К.

Міністэрства ўнутраных спраў і Камітэт дзяржаўнай бяспекі не выканалі пункт 2 Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 29 мая 1996 года «Аб старшыні Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па факту затрымання праваахоўнымі органамі дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Знаўца П.К.» і не прадставілі Часовай камісіі неабходныя дакументы аб тым, хто і на якой падставе затрымліваў Знаўца П. К.

3. Заслухаць на другой сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання справаздачы Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Капітана В.С., міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Агальца В.С., старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь Мацкевіча У.А. аб выніках праведзеных службовых расследаванняў і прынятых мерах па забеспячэнню выканання заканадаўства ў рабоце праваахоўных органаў.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

27 чэрвеня 1996 г., г.Мінск, № 413-XIII

### Аб інфармацыі Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню падзей, якія мелі месца падчас і пасля 26 красавіка і 30 мая 1996 года ў горадзе Мінску

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць да ведама інфармацыю Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню падзей, якія мелі месца падчас і пасля 26 красавіка і 30 мая 1996 года ў горадзе Мінску.

2. Даручыць Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню падзей, якія мелі месца падчас і пасля 26 красавіка і 30 мая 1996 года ў горадзе Мінску, далажыць Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь аб выніках сваёй работы ў верасні 1996 года пасля заканчэння расследавання крымінальнай справы, узбуджанай у сувязі з указанымі падзеямі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

28 чэрвеня 1996 г., г. Мінск, № 420-XIII

### Аб факце выкарыстання работнікам міліцыі зброі 14 чэрвеня 1996 года

Заслухаўшы паведамленні дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Ганчара В.І., Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Капітана В.С., міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Агальца В.С., Старшыні Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь Каравая У.С. аб выкарыстанні работнікам міліцыі зброі 14 чэрвеня 1996 года, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць да ведама, што па дадзенаму факту пракуратурай горада Мінска ўзбуджана крымінальная справа, і даручыць Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь паведаміць Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь аб выніках праведзенага следства.

2. Міністру ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, Старшыні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь праінфармаваць Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь аб выніках службовых расследаванняў правамернасці дзеянняў падначаленых ім службовых асоб, якія прымалі ўдзел у падзеях, звязаных з выкарыстаннем работнікам міліцыі зброі 14 чэрвеня 1996 года.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

28 чэрвеня 1996 г., г. Мінск, № 421-XIII

### Аб унясенні змяненняў і дапаўнення ў Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб тэрмінах выдачы, абарачэння і пагашэння імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці ў Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб тэрмінах выдачы, абарачэння і пагашэння імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 20, арт. 252) наступныя змяненні і дапаўненне:

1. У пункце 1:

словы «31 снежня 1995 года» замяніць словамі «1 ліпеня 1997 года»;

дапоўніць пункт сказам наступнага зместу: «Устанавіць тэрмін афармлення імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць» да 31 снежня 1996 года».

2. У пункце 2 словы «31 снежня 1995 года» замяніць словамі «1 ліпеня 1997 года».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

28 чэрвеня 1996 г., г. Мінск, № 424-XIII

# Законы Рэспублікі Беларусь

### Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Частку першую артыкула 9 Закона Рэспублікі Беларусь ад 2 чэрвеня 1993 года «Аб парадку выезду з Рэспублікі Беларусь і ўезду ў Рэспубліку Беларусь грамадзян Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1993 г., № 22, арт. 274) дапоўніць сказам наступнага зместу: «Выезд за мяжу грамадзян, якія не дасягнулі 18-гадовага ўзросту, у мэтах іх лячэння, аздараўлення або кансультацыі можа быць ажыццёўлены па натарыяльна завяранаму хадайніцтву аднаго з бацькоў або іншага законнага прадстаўніка або ў іх суправаджэнні».

2. Раздзел «У органах, якія ажыццяўляюць натарыяльныя дзеянні» артыкула 4 Закона Рэспублікі Беларусь ад 10 студзеня 1992 года «Аб дзяржаўнай пошліне» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 6, арт. 100) дапоўніць пунктам 26 наступнага зместу:

«26) грамадзяне — законныя прадстаўнікі непаўналетніх — за засведчанне хадайніцтваў аб выездзе дзяцей за мяжу для лячэння, аздараўлення або кансультацыі».

3. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь унесці ў дзеючыя нарматыўныя акты змяненні, якія вынікаюць з дадзенага Закона.

4. Гэты Закон увесці ў дзеянне з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

31 мая 1996 г., г. Мінск, № 444-XIII

### Аб унясенні дапаўнення ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на нерухомасць»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Дапоўніць пункт 1 артыкула 4 Закона Рэспублікі Беларусь ад 23 снежня 1991 года «Аб падатку на нерухомасць» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., №3, арт.59) пасля абзаца чацвёртага новым абзацам наступнага зместу:

«асноўныя фонды, закансерваваныя ў парадку, устаноўленым Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь».

2. Гэты Закон увесці ў дзеянне з 1 ліпеня 1996 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

20 чэрвеня 1996 г., г. Мінск, № 446-XIII

### Аб унясенні дапаўнення ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатках і зборах, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Дапоўніць пункт 2 артыкула 10 Закона Рэспублікі Беларусь ад 20 снежня 1991 года «Аб падатках і зборах, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 4, арт.75; 1994 г., № 3, арт.24) пасля часткі першай новай часткай наступнага зместу:

«Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь мае права часова вызваляць плацельшчыкаў ад збірання пені за несвоечасовую выплату падаткаў і збораў у бюджэт, а таксама адтэрміноўваць спагнанне такой пені».

Частку другую лічыць часткай трэцяй.

2. Гэты Закон увесці ў дзеянне з 1 ліпеня 1996 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

20 чэрвеня 1996 г., г. Мінск, № 447-XIII

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

● Вялікабрытанія заявіла, што збіраецца накіраваць яшчэ 1000 вайскоўцаў у Паўночную Ірландыю, дзе чацвёртыя суткі працягваюцца беспарадкі.

● Следчыя па ваенных злачынствах у былой Югаславіі знайшлі не менш 10 целаў у магіле на ўсходзе Босніі. У той жа час Клінтан загадаў прыступіць да ажыццяўлення ўзначальваемага ЗША плана прадастаўлення ваеннага абсталявання і падрыхтоўкі ў Босніі.

● Пасля сустрэчы з ізраільскім прэм'ерам Біл Клінтан сказаў, што Нетаніягу запэўніў яго ў тым, што Ізраіль будзе праводзіць курс на поўнае ўвядзенне ў дзеянне пагаднення па ўсталяванню міру на Блізкім Усходзе.

● Злучаныя Штаты Амерыкі прынялі рашэнне аб выдаткаванні больш за 100 мільёнаў долараў на бліжэйшыя 4 гады для правядзення даследаванняў па вытворчасці бактэрыцыдных крэмаў, якія дапамагаюць жанчынам засцерагацца ад СНІДу. 40 працэнтаў ВІЧ-інфіцыраваных — жанчыны.

● Прэзідэнт Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі Нэльсан Мандэла знаходзіцца з візітам у Брытаніі. Галоўная мэта яго візіту — прыцягненне інвестараў у эканоміку ПАР.

● Ураган «Берта» рухаецца ў накірунку да Багамскіх астравоў, і ёсць магчымасць таго, што ён закране Усходняе ўзбярэжжа Злучаных Штатаў. Моц яго пастулова ўзрастае. Хуткасць ветру дасягнула 185 кіламетраў у гадзіну.

● **У ЧАЧНІ АД РАСІЙСКІХ РАКЕТ ГІНУЦЬ МІРНЫЯ ЖЫХАРЫ**

Учора расійская авіяцыя працягвала наносіць ракетна-бомбавыя ўдары па населеных пунктах на паўднёвым усходзе Чачні. У выніку абстрэлаў загінулі больш за 20 мірных жыхароў, больш за 40 атрымалі раненні. Дзярждума Расіі прапанавала Віктару Чарнамырдзіну выступіць перад дэпутатамі з тлумачэннем падстаў аднаўлення баявых дзеянняў у Чачні. Лебедзь усклаў адказнасць за апошнія падзеі ў рэспубліцы на Яндарбіева і камандаванне сіл чачэнскага супраціўлення.

● **УКРАІНУ АХАПІЛА ХВАЛЯ ЗАБАСТОВАК**

Настаўнікі і работнікі шэрага іншых галін народнай гаспадаркі далучыліся ўчора да акцый пратэсту, якія праводзяць украінскія шахцёры. У ходзе гэтых акцый былі блакіраваны асноўныя магістралі Данецка, а таксама іншых шахцёрскіх гарадоў у Данбасе і раёне Карпатаў. Рух блакіраваны таксама ў Львове на Заходняй Украіне. Бастуючыя патрабуюць выплаты шматмесячнай запазычанасці па зарплаце. Работа спынена на палове шахтаў Украіны.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 4.51 | 21.38 | 16.47 |
| Віцебск – | 4.33 | 21.35 | 17.02 |
| Магілёў – | 4.40 | 21.27 | 16.47 |
| Гомель – | 4.47 | 21.15 | 16.28 |
| Гродна – | 5.08 | 21.50 | 16.42 |
| Брэст – | 5.17 | 21.43 | 16.26 |

### МЕСЯЦ

Апошняя квадра 7 ліпеня.

### ІМЯНІНЫ

Пр. Кіра, Іаана, Сергія і Германа

К. Бэнэдыкта, Вольгі

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы неба воблачнае з праясненнямі, па Гомельскай і Магілёўскай абласцях -- кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ў Віцебску -- 18--20, Гродне, Гомелі і Мінску -- 19--21, Магілёве -- 20--22, Брэсце -- 21--23 градусы цяпла. У наступныя двое сутак надвор'е прыкметна не зменіцца: 12-га на большай частцы Беларусі, 13-га па захаду -- невялікія дажджы. Тэмпература паветра ўначы 9--14, удзень 18--23, на паўднёвым усходзе да 26 градусаў цяпла.

**ДЛЯ ДАВЕДКІ:**

*Аграпрамысловы сектар у Францыі называюць «зялёнай нафтай». Гэта адна з асноўных галін эканомікі, у якой занята ўсяго 3 працэнты насельніцтва, а яе гадавы абарот больш за 140 млрд. долараў у год. Індустрыялізацыя сельскагаспадарчай працы, караненне найноўшых дасягненняў навукі, селекцыя прывялі не толькі да велізарнага багацця прадуктаў харчавання, але і да таго, што кошт на іх па кішэні практычна ўсім французам.*

# У ГАСЦЯХ У ФРАНЦУЗСКАГА ФЕРМЕРА



**Усё пазнаецца ў параўнанні. Знаёмы французскі журналіст, які пабываў узімку на нашым Камароўскім рынку ў Мінску, быў вельмі ўражаны. Спачатку ў яго сталі круглымі вочы, калі ён убачыў напалову разабраныя крывавыя тушы на калясках побач з прылаўкамі, свіныя галовы з натапыранымі вушамі сярод нацюрморта з капыт, хвастоў і шматкоў сала. Потым і ўвогулі страціў мову, калі ў двары рынку свіная туша звалілася з каляскі ў раскіслы снег, а яе ўмомант закінулі назад і павезлі ў гандлёвую залу.**

**Прызнацца, калі б не ягоны збянтэжаны выгляд і абурэнне, што ён не захапіў фотаапарат, я увогуле не звярнула б увагі на гэты інцыдэнт. І не такое даводзілася бачыць! Але ён яшчэ доўга не мог супакоіцца і ўсё ўпэўніваў мяне, што такое мяса ў Францыі не далі б нават кошкам і сабакам.**

**У тым, што ён ніколькі не перабольшваў, я пераканалася сама, пабываўшы гэтай вясной у яго ў гасцях у рэгіёне Па-дэ-Калэ на поўначы Францыі.**

## ТРЫ РАБОТНІКІ І 800 КАРОЎ

Па-дэ-Калэ, былы буйны вугальны басейн, зараз больш славіцца як жывёлагадоўчы рэгіён. Кожная ферма мае сваю спецыялізацыю. Адны гадуюць малочныя пароды кароў, другія — мясныя. У сувязі з эпідэміяй шаленства кароў у Англіі спажыванне ялавічыны пачало падаць і ў Францыі. Каб супакоіць грамадскасць, адзін з буйнейшых фермераў у рэгіёне Па-дэ-Калэ арганізаваў для журналістаў і мясцовых уладаў прэс-канферэнцыю. Такім чынам я трапіла на францускую ферму.

Марселю, уладальніку фермы, 66 гадоў. Сярэдняга росту, каржакаваты, са смяшлівымі, хітраватымі вачамі, абсалютна раскаваны і ўпэўнены ў сабе, ён у параўнанні са сваімі важнымі гасцямі больш быў падобны на мужыка з рускіх казак, які здольны хоць чорта вакол пальца абвесці.

Бацька Марселя меў зямлю, але нічога не рабіў, каб развіваць гаспадарку. «Я ўсяго дамогся сам», — горда паведаміў мне Марсель. Я не сумняваюся ў яго дзелавых здольнасцях, але хачу ўсё ж адзначыць, што ў 60-я гады ў Францыі быў прыняты «Закон аб жывёлагадоўлі», які зрабіў сапраўдную рэвалюцыю ў гэтай галіне. Мала таго, што ўсе гаспадаркі пачалі ўзбуйняцца і спецыялізавацца на нечым адным, але з'явіліся і прадпрыемствы, якія сталі працаваць у галіне генетыкі парод, вытворчасці кармоў, забою жывёлы, перапрацоўцы мяса.

Зараз Марсель валодае 100 га зямлі, невялікім заводам па апрацоўцы мяса і васьмюстамі мяснымі каровамі, якіх абслугоўваюць усяго тры чалавекі і дзве машыны. Адна — для раскідання кармоў, другая — для прыбірання.

У Марселя сем дзяцей. Пяць працуюць разам з ім, ёсць таксама і наёмныя рабочыя. Ніякіх вёсак вакол фермы я не заўважыла. Зрэшты, вёсак, у нашым разуменні, у Францыі наогул няма. Ёсць вялікія дамы ці катэджы, згрупаваныя ў пасёлкі каля гарадоў. Кожны француз мае машыну, на якой і ездзіць на працу, часам за 80—100 км ад дому.

## ЯК ДАБІЦЦА Ў КАРОВЫ «ТАЛІІ»

Візіт на ферму пачаўся з... рэстарана, дзе высокапастаўленыя госці самі пераканаліся ў якасці мяса, якое вырабляе Марсель. І яно сапраўды было выдатным. Французы ядуць усе часткі тушы: запечаныя свіныя ножкі, галовы цялят, нават касцявы мозг, які мае рамантычную назву «амуре». А таўшчэзны кавалак мяса з крывёю проста сам раставаў у роце. І ў гэтым не столькі заслуга кухараў, колькі ўсёй сістэмы па гадоўлі жывёлы.

У Францыі за якасцю мяса сочаць з маніякальнай заўзятасцю. Кожнаму толькі што нараджанаму цяляці адразу прасоўваюць у вуха бірку з нумарам і заводзяць на яго асабістую картку, у якой адзначаецца ўсё: прырост, хваробы, лячэнне і г. д. З біркай і карткай жывёліна суправаджаецца да самай бойні. А ў магазінах можна назіраць на прылаўках сертыфікаты таго ці іншага сорту мяса, у якіх гарантуюцца тры крытэрыі якасці: ідэнтыфікацыя пароды, умовы, у якіх выгадавалася жывёліна (на пашы ці на штучных кармах) і дата паступлення, бо для таго, каб мяса было смачнае і мяккае, яно павінна вытрымлівацца на холадзе мінімум з тыдзень.

Марсель набывае цялят у Францыі і Бельгіі ва ўзросце ад чатырох да васьмі месяцаў, калі яны важаць не меней за 300 кг. Па іх адкорму і ўтрыманню існуюць найстражэйшыя рэкамендацыі: умовы размяшчэння ў метрах на карову, прафілактычныя прышчэпкі і лячэнне з абавязковым унясеннем у суправаджальную картку, якія кармы і калі даваць, у які час года і ў якім узросце каровам не рэкамендуецца набіраць залішнюю вагу. Узімку, напрыклад, ім трэба набіраць не болей за 500—600 г у дзень, а летам і да аднаго кілаграма. У папцы з інструкцыямі, якую нам падарылі, была нават такая ўмова: «Усе жывёлы павінны быць народжаны ў Францыі і адкормлівацца ў рэгіёне Па-дэ-Калэ — Пікардзі. Яны павінны праводзіць не менш за 4 месяцы ў рэгіёне Па-дэ-Калэ — Пікардзі перад тым, як іх адправяць на бойню».

Калі мы ўвайшлі ў ангар, аслупянела не толькі я, але і французы. Амаль усе каровы і быкі былі белага колеру і такія агромністыя, што больш паходзілі на сланоў. У некаторых з іх жывот ледзь не дасягаў зямлі. Адна з кароў вырашыла прылегчы, але да яе тут жа падбег работнік і пачаў штурхаць нагой, каб яна паднялася. Потым ён растлумачыў, што калі яна няправільна ляжа, дык сваёй масай можа прыціснуць сэрца і памерці. А вага кароў у залежнасці ад узросту была ад 1,5 да 3 тон.

Ангар, у якім знаходзілася жывёла, нічым асаблівым не вызначаўся. Паміж стойламі стаялі вяртушкі з саломай, якой засыпаюць слой гною, а ўздоўж цягнуліся жолабы. Машына, якая развозіла корм, нагадвала звычайны трактар з бакавой трубой, з каторай у жолабы сыплецца корм у выглядзе чорных гранул. Гэтыя гранулы зроблены з соі, буракоў, вітамінаў і яшчэ нейкіх дабавак. Каровы елі яго з задавальненнем.

Я спытала ў Марселя, ці даюць жывёле гармоны ці антыбіётыкі. Ён запэўніў мяне, што гармоны наогул забаронены, а антыбіётыкі трэба даваюць толькі тады, калі карова хварэе. А што датычыцца такой велізарнай масы жывёлін, дык яна дасягаецца шляхам селекцыі. У свой час дзяржавай былі запушчаны складаныя і дарагія праграмы па прымяненню метадаў селекцыі, каб палепшыць якасць жывёлы па ўсіх параметрах. І зараз гэта палітыка прыносіць пэўныя вынікі. Францыя з'яўляецца сусветным лідэрам у галіне генетыкі мясных парод. У мінулым годзе трэць лепшых быкоў-вытворнікаў была французскага паходжання. Прадалі іх толькі за мяжу 50 тыс., 1 млн. доз спермы, 500 эмбрыёнаў усяго на суму 70 млн. долараў. Зараз французскія даследчыкі працуюць над выяўленнем гена «мясістасці».

## ПАМІРАЦЬ З КАМФОРТАМ

Пасля фермы мы наведалі і невялічкую фабрыку па апрацоўцы туш. Звонку яна выглядала вельмі кампактнай, але ўнутры было столькі памяшканняў, што можна было і заблудзіцца. Больш за ўсё ўразіла адсутнасць якога-небудзь паху і слядоў крыві. У халадзільных камерах паўсюль розныя тэмпературы. Там, дзе вісяць тушы — не вельмі холадна, а там, дзе знаходзіцца гатовы прадукт — тэмпература як на полюсе. Заходзіш і адразу выскокваеш. Усё аўтаматызавана: ліфты, пад'ёмнікі, машыны для рубкі мяса. Ёсць нават машыны, што вымаюць жылы.

Мяса, якое адпраўляецца ў продаж, прыгожа запакоўваецца машынамі ў цэлафан. І абавязкова ставіцца дата вырабу. Яно павінна быць мяккім і мець натуральны колер, таму вельмі важна, як жывёлу забіваюць. Нельга, каб у момант смерці ў яе былі напружаны мышцы, інакш гэтае мяса будзе цвёрдым. Адходаў на фабрыцы ніякіх няма. Усё, што не ідзе ў ежу людзям, перапрацоўваецца ў корм для сабак і кошак і таксама праходзіць жорсткі кантроль.

Для рабочых на фабрыцы створаны шыкоўныя ўмовы: душавыя, раздзявальні, сталоўка, дзе кормяць, як у рэстаране...

**Іна ЗУБ.**

# НАСУСТРАЧ АЛІМПІЯДЗЕ

Atlanta 1996

## ПРАГРАМА ВЫСТУПЛЕННЯ БЕЛАРУСКІХ СПАРТСМЕНАЎ НА XXVI АЛІМПІЙСКІХ ГУЛЬНЯХ 1996 г., СКЛАДЗЕНАЯ ПЕРАВАЖНА НА АСНОВЕ АФІЦЫЙНАЙ АЛІМПІЙСКАЙ ПРАГРАМЫ (ПА ДНЯХ)

**(Заканчэнне. Пачатак у №№ 172—173)**

| №№ п/п | Віды спорту | Від праграмы | Прозвішча спартсмена |
|---|---|---|---|
| | | **28 ліпеня** | |
| 1. | **Бокс** | 63.5 кг, 81 кг | |
| 2. | **Лёгкая атлетыка** | марафон, фінал (жан.) | Галушка Н.,<br>Мазоўка А.,<br>Біктагірава М. |
| | | **сямібор'е**<br>скач. у даўж. (жан.) | Атрошчанка А.,<br>Сазановіч Н. |
| | | кіданне кап'я | Атрошчанка А.,<br>Сазановіч Н. |
| | | 800 м, фінал | Атрошчанка А.,<br>Сазановіч Н. |
| | | кіданне дыска, кваліф. (жан.) | Філімонава Л.,<br>Зверава Э., Ятчанка І. |
| | | 400 м з бар'ер. 1 тур (жан.) | Ледаўская Т.,<br>Курачкіна Т.,<br>Варанкова Н. |
| | | кіданне молата фінал (муж.) | |
| 3. | **Тэніс** | парн. разрад 2 тур (жан.) | |
| 4. | **Скачкі ў ваду** | трамплін, папярдн. (муж.) | Семянюк А.,<br>Хамулькін В. |
| 3. | **Настольны тэніс** | адзіночн. разрад 1/8 (муж.) | |
| 6. | **Парусны спорт** | «Лазер» 7 гонка,<br>«Лазер»8 гонка<br>«Еўропа» 7 гонка<br>«Еўропа» 8 гонка<br>«Зорны» 9 гонка<br>«Зорны» 10 гонка | Зеляноўскі А.<br>Зеляноўскі А.<br>Падабед А.<br>Падабед А.<br>Харэцкі С., Зуеў В.<br>Харэцкі С., Зуеў В. |
| 7. | **Велатрэк** | гонка з набор. ачк. фінал, груп. (жан.) | |
| 8. | **Цяжкая атлетыка** | 99 кг, група В | Чырыца А. |
| 9. | **Стральба з лука** | асабіст. першынст., класіф. (жан.) | Марфель А.,<br>Якушава В. |
| 10. | **Веславанне акадэмічн.** | А-4 фінал В (муж.)<br>А-8, фінал А (жан.) | |
| 11. | **Гімнастыка спарт.** | конь (муж.) фінал<br>вольн. практ., фінал (муж.)<br>скачкі, фінал (жан.)<br>брусы, фінал (жан.) | |
| | | **29 ліпеня** | |
| 1. | **Гімнастыка спарт.** | скачкі праз каня, фінал (муж.)<br>бервяно, фінал (жан.)<br>брусы, фінал (муж.)<br>вольн. практ., фінал (жан.)<br>перакл., фінал (муж.) | |
| 2. | **Лёгкая атлетыка** | 10 км, спарт./х , фінал (жан.) | Цыбульская В.,<br>Кардапольцава В.,<br>Місюля Н |
| | | кіданне дыска, квал. (муж.) | Капцюх В.,<br>Дуброўшчык У. |
| | | 200 м, 1 тур, (жан.)<br>кіданне дыска, фінал (жан.) | Сафроннікава Н. |
| 3. | **Скачкі ў ваду** | трампл. 1/2 фін., фінал (муж.) | |
| 4. | **Парусны спорт** | «Лазер» 9 гонка<br>«Лазер» 10 гонка | Зеляноўскі А.<br>Зеляноўскі А. |
| | | «Еўропа» 9 гонка<br>«Еўропа» 10 гонка<br>«Тарнада» 9 гонка | ПадабедА.<br>Падабед А.<br>Краўцоў С.,<br>Буданцаў В. |
| | | «Тарнада» 10 гон. | Краўцоў С.,<br>Буданцаў В. |
| | | «Зорны», фінал | |
| 5. | **Цяжкая атлетыка** | 108 кг, груп. В<br>108 кг, груп. А. | Цэкала Г.<br>Емяльянаў В. |
| 6. | **Стральба з лука** | асабіст. перш. 1/32,(жан.) | Марфель Е.,<br>Якушава В. |
| | | асабістае пер-ва 1/16 (жан.) | |
| 7. | **Тэніс** | адзін. раз-д 1/4 (жан.). | |
| | | **30 ліпеня** | |
| 1. | **Цяжкая атлетыка** | +108 кг, група В<br>+108 кг, гр. А | Курловіч А.<br>Тараненка Л. |
| 2. | **Настольны тэніс** | адзін. раз-д, 1/4 фіналу (муж.) | |
| 3. | **Скачкі ў ваду** | трампл. папярэд. (жан.) | Аляксеева С. |
| 4. | **Парусны спорт** | «Лазер» фінал<br>«Еўропа» фінал<br>«Тарнада», фінал | |
| 5. | **Барацьба вольная** | 57 кг, папяр.<br>68 кг, папяр.<br>82 кг, папяр.<br>100 кг, папяр.<br>68 кг 1 тур<br>68 кг 2 тур | Гузаў А.<br>Гогаль А.<br>Саўко А.<br>Кавалеўскі С. |
| 6. | **Гімнастыка спарт.** | паказальныя выступ (муж., жан.) | |
| | | **31 ліпеня** | |
| 1. | **Лёгкая атлетыка** | **дзесяцібор'е**<br>100 м<br>скачкі ў даўж.<br>штурханне ядра<br>скачкі ў вышыню | Хамяляйнен Э. |
| | | скачкі з шаст., кваліф. (муж.)<br>100 м з бар'ер. 1 тур, (жан.)<br>скач. у даўж., квал. (муж.)<br>кіданне дыска, фінал (муж.) | Маркаў Д.<br>Юркова Л.<br>Главацкі А. |
| 2. | **Скачкі ў ваду** | трампл. 1/2 фін. фінал | |
| 3. | **Парусны спорт** | «Лазер», фінал<br>«Еўропа», фінал<br>«Тарнада», фінал | |
| 4. | **Вольная барацьба** | 68 кг, класіф.<br>57 кг, за бронзу | Гогаль А. |
| | | 100 кг, класіф.<br>100 кг, за бронзу | Кавалеўскі С. |
| 5. | **Веславанне на байдарках і каноэ** | К-1 500 м папярэд.<br>С-2, 500 м папяр. | Калеснік С.<br>Масяйкоў А.,<br>Даўгалёнак Д. |
| | | К-1, суцяш. 500 м<br>С-2, суцяш. 500 м | |
| 6. | **Настольны тэніс** | адзін. раз-д 1/2 фіналу (муж.) | |
| 7. | **Велашаша** | фінал, (муж.) | Герман В.,<br>Шарапаў А.,<br>Бандарык А.,<br>Галаванаў Я.,<br>Кавецкі П. |
| 8. | **Стральба з лука** | асаб. пер-ва 1/8 фіналу, (жан.) | |
| 9. | **Тэніс** | адзін. раз-д 1/2 фіналу, (жан.) | |
| | | **1 жніўня** | |
| 1. | **Лёгкая атлетыка** | **дзесяцібор'е**<br>110 м з бар.<br>кіданне дыска<br>скачкі з шастом<br>кіданне кап'я<br>1500 м, фінал | Хамяляйнен Э. |
| | | скачкі ў вышыню, кваліф. (жан.) | Храмава Т. |
| 2. | **Скачкі ў ваду** | вышка, папярэд. (муж.) | Квачынскі А.,<br>Кудрэвіч С. |
| 3. | **Барацьба вольная** | 62 кг, папяр.<br>74 кг, папяр.<br>130 кг, папяр. | Смаль С.<br>Козыр І.<br>Мядзведзеў А. |
| 4. | **Гімнастыка мастацкая** | асабіст. пер-ва, папярэд. | Лук'яненка Л.,<br>Агрызка Т. |
| | | каманд. пер-ва, папярэд. | Паходзіна А.,<br>Лузанава С.,<br>Ждановіч А.,<br>Будзіла Н.,<br>Малашанка Г.,<br>Дземская В. |
| 5. | **Настольны тэніс** | адзін раз-д фінал (муж.) | |
| | | **2 жніўня** | |
| 1. | **Лёгкая атлетыка** | 50 км спарт./х, фінал (муж.)<br>кіданне кап'я, кваліф. (муж.)<br>скачкі з шастом фінал | Місюля Я., Гінько В.<br>Сасімовіч У. |
| 2. | **Скачкі ў ваду** | вышка, папярэд. (муж.) | Квачынскі А.,<br>Кудрэвіч С. |
| 3. | **Барацьба вольная** | 62 кг, класіф.<br>74 кг класіф.<br>130 кг, класіф.<br>62 кг, за золата<br>130 кг, за бронзу | Смаль С.<br>Козыр І.<br>Мядзведзеў А. |
| 4. | **Гімнастыка мастацкая** | асабіст. пер-ва, папярэд. | Агрызка Т.,<br>Лук'яненка Л. |
| | | камандн. пер-ва, фінал | |
| 5. | **Веславанне на б/к** | К-1, 500 м, 1/2 фіналу (муж.)<br>С-2, 500 1/2 фіналу (муж.) | |
| | | **3 жніўня** | |
| 1. | **Велашаша** | індывід. гонка на час, фінал (муж.) | Кавецкі П.,<br>Галаванаў Я. |
| | | інд. гонка на час, фінал (жан.) | Стагурская З. |
| 2. | **Гімнастыка мастацкая** | асабіст. пер-ва, 1/2 фіналу | |
| | | **4 жніўня** | |
| 1. | **Гімнастыка мастацкая** | асабіст. пер-ва, фінал | |
| 2. | **Веславанне на б/к** | К-1 500 м, фінал<br>С-2 500 м, фінал. | |

# Адвес замест грунтвагі




Многія аўтааматары ведаюць: калі парушыліся вуглы ўстаноўкі колаў, машына горш кіруецца і трымае дарогу, шыны на пярэдніх колах зношваюцца нераўнамерна. Правяраюць і рэгулююць вуглы звычайна пры кожным аглядзе, тэхнічным абслугоўванні аўтамабіля на станцыях ці ўласнымі сіламі. У хатніх умовах карыстаюцца рознымі прыстасаваннямі: для вызначэння сыходжання колаў часцей за ўсё карыстаюцца рассоўнымі лінейкамі, а для вызначэння развалу — адвесамі. Работа з адвесам займае шмат часу, але дакладнасць атрымліваецца не вельмі добрая. Гэтых недахопаў можна пазбегнуць, калі выкарыстоўваць прыстасаванне з вадкаснай грунтвагай.

Канструкцыя прыстасавання нескладаная (глядзіце малюнак 1). Да асновы 3 балтом 7 і дзвюма гайкамі мацуецца паваротная планка 4. На планцы дзвюма дужкамі 5 замацавана вадкасная грунтвага. Гэта кавалак шкляной трубкі (унутры яна павінна быць цыліндрычнай), закрыты з абодвух бакоў коркамі і запоўнены вадкасцю так, каб унутры заставаўся маленькі пузырок паветра. Да планкі мацуецца шкала 2 з дзяленнем 1 мм (гэта можа быць прыклееены кавалак лінейкі). Пры вырабе прыстасавання трэба глядзець, каб была забяспечана адлегласць 142 мм ад восі балта да краю шкалы. Тады перамяшчэнне шкалы на адно дзяленне (1 мм) будзе адпавядаць павароту планкі на вугал 24 мінуты.

Вугал развалу кола вызначаюць наступным чынам. Ставяць машыну на роўную гарызантальную пляцоўку так, каб адна са шпілек (балтоў) мацавання кола знаходзілася зверху. Правяраюць і пры неабходнасці падпампоўваюць шыны пярэдніх колаў да аднолькавага, патрабуемага інструкцыяй ціску. Потым выстаўляюць колы прама. Некалькі разоў націскаюць на перадок машыны, раскочваючы яе ў вертыкальнай плоскасці, каб дэталі падвескі занялі нейтральнае становішча. Адварочваюць верхнюю гайку (болт) мацавання кола, надзяваюць на шпільку (болт) прыстасаванне, як паказана на малюнку 2, і замацоўваюць яго на коле. Паварочваючы планку 4 (гл. мал. 1) уверх ці ўніз, выводзяць пузырок паветра на сярэдзіну грунтвагі. Глядзяць становішча адносна рыскі на аснове (гл. мал. 2). Перакочваюць машыну, каб прыстасаванне аказалася ўнізе. Зноў выводзяць пузырок паветра грунтвагі на сярэдзіну і фіксуюць, наколькі зрушылася шкала адносна ранейшага становішча. Гэта велічыня, падзеленая папалам і пераведзеная ў градусы, дасць вугал развалу. Развал добры, калі ў апошнім становішчы планку з грунтвагай паварочваюць уверх, і дрэнны — калі ўніз.

Такім жа чынам вызначаюць вугал развалу другога кола.

Рэгуляванне пры неабходнасці робяць, як паказана ў заводскай інструкцыі па эксплуатацыі аўтамабіля. Але трэба памятаць, што, прыступаючы да праверкі вуглоў устаноўкі колаў, трэба прывесці ў нармальнае становішча зазоры ў падшыпніках пярэдніх колаў, шаравыя апоры і ўсе злучэнні падвескі і рулявога кіравання.

*__Малюнак 1__. Канструкцыя прыстасавання:*

*1 — рыска; 2 — шкала; 3 — аснова; 4 — паваротная планка; 5 — дужка (2 шт.); 6 — грунтвага; 7 — болт; 8 — гайка М8 (2 шт.).*

*__Малюнак 2.__ Схема вымярэння вугла развалу:*

*I і II — першае і другое становішча прыстасавання.*



Малюнак 1



Малюнак 2

# Амаль усё пра ключы...

**Кожны вадзіцель ведае, што добры інструмент — палова поспеху ў працы. Зараз гаворка пойдзе аб тым, якім інструментам зручна карыстацца пры рамонце «Жыгулёў».**

**Але і ўладальнікі іншых машын знойдуць нешта карыснае для сябе. Інструмент, які мы прапануем, можна зрабіць у любой саўгаснай майстэрні ці кузні.**

**Універсальны ключ для гайкі нацяжыцеля ланцуга (мал. 2).**

Калі няма 12-граннай галоўкі на 13, падыдзе і 6-гранная. Такі ключ зручны і пры выкананні іншых аперацый — дэмантажу накрыўкі галоўкі цыліндраў, рэгуляванні замкоў дзвярэй і г. д.

Пры дапамозе другога ключа **(мал. 3)** вельмі зручна рэгуляваць клапанныя зазоры. Галоўка ключа, зробленая пад вуглом 45° да восі, выключае верагоднасць пашкоджання перарывальніка пры рэгуляванні зазораў першага і другога клапанаў. Ён вельмі зручны і пры адкручванні пробак кантрольных дзірак у каробцы перадачы і рэдуктары задняга моста.

Падаўжальнік **(мал. 4)** для адкручвання цяжкадаступных гаек ці балтоў.

Штатны ключ для свечак лепш перарабіць. Укараціце яго на 70 мм і прыварыце з тыльнага боку галоўку на 14 мм. Гэты ключ **(мал. 5)** разам з 500-міліметровым падаўжальнікам, шарнірам і папярэчынай будзе не горшы за спецыяльны «вазаўскі».

Пры падцяжцы балтоў, якія мацуюць галоўку блока, звычайным тарцавым ключом неабходна здымаць корпус падшыпнікаў размеркавальнага вала. Гэта вельмі складаная аперацыя. Яе можна пазбегнуць, калі мець спецыяльны ключ **(мал. 6).** Зрабіце скабу. Разрэжце тарцавую галоўку на 19 (абавязкова 12-гранную), палову яе з квадратам прываварыце да верхняй часткі скабы, а другую, папярэдне заварыўшы наяўную адтуліну, — да ніжняй часткі.







Добра вядома, як цяжка бывае адкруціць штуцэры для «пракачкі» тармазоў. Ражковы ключ на 8 для гэтай мэты не падыдзе, ён можа дэфармаваць грані штуцэра. Тут дапаможа спецыяльны ключ **(мал. 7).**

Дапаможа адрэгуляваць зазор паміж кантактамі перарывальніка (ці пры іх змене) маленькі ключ на 8 **(мал. 8).**



Рубрыку вядзе
Мікалай НАЗАРАЎ.

*ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...*

# ШТО ДАДЗЕНА АД ДАМІНО?

Радзіма гэтага гадання — старажытны Кітай, дзе даміно называлі касцянымі таблічкамі. Кожная таблічка мае сваё тайнае значэнне і можа даць вам кароткае, але дакладнае апісанне таго, што чакае вас у будучыні.

Прынцып гадання просты. Вазьміце скрынку з даміно і выкладзіце ўсе таблічкі на стол. Перавярніце іх «тварам» уніз і перамяшайце. Затым выберыце наўгад тую з іх, на якой спыніцца позірк, і перавярніце. А цяпер звярцеся з пералікам значэнняў і атрымаеце адказ, прадвызначаны вам лёсам.

Пакладзіце вашу таблічку ў агульную кучку і зноў перамяшайце даміно. Выберыце другую... Паўтараць гэту працэдуру на працягу аднаго гадання можна не больш трох разоў.

Значэнні касцяных таблічак

дубль шэсць — поспех ва ўсіх адносінах;

6:5 — наперадзе дабрачынная работа;

6:4 — спрэчная альбо судовая справа, якая наўрад ці скончыцца добра;

6:3 — кароткае падарожжа з добрым фіналам;

6:2 — каштоўны падарунак будзе паднесены ў бліжэйшы час;

6:1 — знікне прычына непрыемнасцей;

6:пуста — будзьце асцярожныя, асабліва з тымі, каго лічыце сваімі сябрамі;

дубль пяць — пераезд у новую кватэру ці дом;

5:4 — да грошай, але не трэба імі рызыкаваць;

5:3 — наведвальнік акажа дапамогу;

5:2 — народзіцца дзіця;

5:1 — гарачы любоўны раман з сумным фіналам;

5:пуста — трэба дапамагчы сябру ў бядзе;

дубль чатыры — незнаёмец запросіць на вечарынку;

4:3 — чакаемыя непрыемнасці не адбудуцца;

4:2 — махляр, магчыма, шукальнік прыгод увойдзе ў тваё жыццё;

4:1 — неабходна вярнуць даўгі, нават калі гэта пагражае часовай стратай грошай;

4:пуста — спроба аднавіць старую дружбу;

дубль тры — з'явіўся сапернік у каханні;

3:2 — можна паддацца спакусе;

3:1 — нечаканыя важныя навіны;

3:пуста — рэўнасць;

дубль два — шчаслівы шлюб;

2:1 — грашовыя страты ў бліжэйшай будучыні;

2:пуста — выпадковая сустрэча і шчаслівая будучыня;

дубль адзін — не трэба сумненняў, трэба смела прыняць рашэнне;

1:пуста — новае карыснае знаёмства;

дубль пуста — дрэннае прадказанне, указвае на страты, расчараванне.

***«Тайная власть».***

## ТЭЛЕБАЧАННЕ , 11 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

**7.30** Ранішні кактэйль. **7.50** Эканамікст. **8.00** Навіны. **8.15** «Дастаеўскі і Беларусь». Дак. фільм. **9.05** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». 10-я серыя. **10.00** Каралеўскае паляванне. **10.40** «Краіна, імя якой — фестываль...» Да 5-й гадавіны Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар». **11.15** Класіка на экране. Маст. фільм «Дзядзька Ваня». **15.00** Навіны. **15.15** «Фліпер». Серыял. **15.40** «Ну, пачакай!» Выпуск 9-ы. **15.50** «Канцэртны сезон». Дзяржаўны акадэмічны ансамбль танца Беларусі. **16.35** «Нядзеля, з 11 да 17». Маст. фільм. **16.50** ШАНЦ. Перадача па пісьмах гледачоў. **17.20** Урокі Наталлі Нважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.00** Бар'еры. Беларускі інваспорт на міжнароднай арэне. **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** Дзённік V Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар-96». **19.15** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». 11-я серыя. **20.10** Калыханка. **20.30** Панарама. **21.15** Урачыстае адкрыццё V Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар-96». **22.55** «Каралева Марго». 12-я серыя. **24.00** Навіны. **0.15** «Я люблю джаз». Трубач Валерый Шчарыца.

**ГРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00** Навіны. **8.15** «Тайны сям'і Дэ Граншан». 1-я серыя. **9.15** «У пошуках страчанага». В. Марэцкая. **9.50** Клуб падарожнікаў. **10.40** Смак. **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». **11.50** «Цыган». Серыял. **13.15** «Белы гарлачык». Мультфільм. **13.25** Каханне з першага погляду. **14.20** «Рыцар Адважнага Сэрца». **14.45** Лега-го! **15.10** Цін-Тонік. **15.40** «Элен і хлопцы». Серыял. **16.05** Рок-урок. **16.30** Сем дзён спорту. **17.15** І. Калныньш у фільме «Тайны сям'і Дэ Граншан». 1-я серыя. **18.15** Гадзіна пік. **18.40** Лато-Мільён. **19.00** «Адзін на адзін». Вядучы А. Любімаў. **19.45** «Добрай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.40** «Французская рэвалюцыя». Серыял. **22.20** «Абоз». Шоу І. Дзямідава.

**Канал «Расія»**

**6.30** Ранішні экспрэс. **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.55** Весткі. **7.20** Дзелавая Расія. **7.50** Час дзелавых людзей. **8.00** Свая гульня. **8.30** Сам сабе рэжысёр. **9.00** «Санта-Барбара». **9.55** Кліп-антракт. **10.20** «Злачынства з мнагімі невядомымі». 5-я серыя. **13.30** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял. **14.00** Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя. **14.40** Дзелавая Расія. **15.05** Расія ў асобах. **15.20** Там-там навіны. **15.35** Кенгуру. **15.50** Каляндар. **16.20** «Твар з вокладкі». І. Нікалаеў. **16.35** Залежыць ад цябе. **16.50** «Дзяўчынка з заўтра». Серыял. **17.15** «Новыя прыгоды Чырвонай Шапачкі». Мультфільм. **17.25** Раз у тыдзень. **17.55** Надзвычайны канал. **18.25** Нічога, акрамя. **18.40** «Цёмная» для П'ера Марэля. **19.35** «Санта-Барбара». **20.30** «Даміно» Міхаіла Баярскага. **21.00** Надвор'е на заўтра. **21.05** «Славянскі базар». Адкрыццё V Міжнароднага фестывалю мастацтваў. **23.10** Музыка ўсіх пакаленняў. **23.25** Адамаў яблык.

**Санкт-Пецярбург**

**11.55, 12.55, 13.55, 14.55, 16.55, 18.55, 21.55** Інфарм ТБ. **12.05** «Першае каханне». Серыял. **13.10** Тэрмін адказу — сёння. **13.40** Парады садаводам. **14.05** «Вялікі чалавек». 8-я серыя. **15.10** «Белая ружа». Маст. фільм (Германія). 1-я частка. **16.15** «Дзеці і поры года». Дак. фільм. **16.40, 20.40** Тэлеслужба бяспекі. **17.05** «Філасофія па Філу». Серыял. **17.30** Стыль жыцця. **17.35** Паказвае Ленінградская АТК. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Першае каханне». Серыял. **20.10** Толькі без панікі. **20.55** Спартыўны агляд. **21.05** «Вялікі чалавек». 8-я серыя. **22.10** «Белая ружа». Маст. фільм. 1-я частка.

**НТБ**

**17.00** «Незвычайныя прыгоды Скубі-ДУ». Мультсерыял. **17.30** Жаночыя гісторыі. «Ланкастэр: гісторыя кахання». 1-я серыя. **18.35** Герой дня. **19.00** Том Хэнкс у фільме «Як у бяздонную бочку» (ЗША). **20.35, 22.15** Доктар Вугал. **21.35** «Дзікія пальмы». 2-я серыя. **22.30** Часінка. **23.20** Маст. фільм «Крык свабоды» (ЗША).

## ВІНШАВАННІ

Сардэчна віншуем ІОДЗІКА Віктара з днём нараджэння. Жадаем табе, каб прыгожа і шчасліва пражыў яшчэ шмат гадоў, каб заўсёды быў здароў.

*в. Янавічы,* **ТРАЦЦЯКОВЫ.**

*Шчыра віншуем Мікалая Аляксеевіча СУПРУНА з саракагоддзем. Няхай жыццё будзе шчаслівым і радасным.*

*г. Слонім,* ***сябры.***

Віншуем з днём нараджэння НАВУМАВУ Валянціну Іванаўну. Здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту.

**Дачка Іра, зяць Дзіма.**

*Сардэчна віншую з днём нараджэння ШУТ Валерыя. Веры, удачы, здароўя табе.*

*г. Баранавічы,* **Яўген ЛІМОНТ.**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск; вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 3449.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12